# ВАРЫЯНТ 1

**Заданне 1.**

## Мурашкі

Абсохла зямля. **Дзе-нідзе** стала паказ**ва**цца зялёненькая травінка. На прыгорку, у лес**е**, весела гойдае сін**я**ю галавою першая вясенняя кветка — сон. У яго касматай галоўцы ўжо поўзае пчолка, цалуе яго сіні**я** лісточкі... Усё варушыцца, прачы**н**аецца ад зімняг**а** сн**у** і хол**аду**, усё хоч**а** глянуць на высокае сонц**а**, што так шчыра аблівае яшчэ мокрую зямлю сваім цёплым, добрым **святлом**. Сагрэла сонейк**а** і мурашнік, каторы п**а**ўгода быў засыпаны снегам. Пачула цяпло і працавітая мурашка. Выпаўзла яна з зямлі, дзе сядзела ўсю зіму; за **ё**ю выпаўзла другая, трэ**ц**яя. **Вось у**жо іх цэлая тысяча таўчэцца, грэецца на сонц**ы**. Пагрэліся і зараз за работу, давай папраўляць сваю хату, папс**а**ва́ную снегам. А яшчэ дз**я**нькі праз два-тры папаўзуць яны ў лес збіраць кусочкі хвоек, смолку, што скінула старая хвоя. А п**а**падзецца на даро**зе** жук або хрушч, палепяцца яны за яго і павалакуць яго да сваёй хаты. Працавітае стварэнне — мурашка. Мног**а** чаго ёсць павучыцца ў яе гультаю.

**Заданне 2.**

| Правіла | У пачатку XX стагоддзя | У XXI стагоддзі |
|---|---|---|
| Правапіс прыставак на зычны | ажыццяўляўся паводле фанетычнага прынцыпу: *апсохла;* | ажыццяўляецца паводле марфалагічнага прынцыпу: *абсохла.* |
| Перадача на пісьме акання | аканне адлюстроўваецца непаслядоўна: *зімняго, холода, хочэ, сонцэ, сонейко, поўгода* але *сагрэла, пачула;* | аканне паслядоўна адлюстроўваецца на пісьме замест ненаціскных ***о*** — ва ўсіх словах, замест ненаціскнога ***э*** ў словах славянскага паходжання: *зімняга, холада, хоча, сонца, сонейка, паўгода.* |
| Правапіс ***ў*** (нескладовага) | грунтаваўся на фанетычным прынцыпе, г. зн. у адпаведнасці з вымаўленнем аўтара тэксту: *Вот ўжо іх цэлая тысяча…* | пасля слова, што заканчваецца на зычны, заўсёды пішацца ***у*** (складовае): *Вось ужо іх цэлая тысяча…* |

**Заданне 3.**

| Часціна мовы | Графіка-акцэнталагічны дыялектызм | Сучаснае вымаўленне і напісанне |
|---|---|---|
| Назоўнік | *дзе́нькі* | *дзянькí* |
| Дзеепрыметнік | *папсóваную* | *папсава́ную* |
| Дзеяслоў | *пóпадзецца* | *пападзéцца* |

**Заданне 4.** Пазнаёмцеся з тэкстам і знайдзіце патрэбныя адказы.

Справу стварэння школьных навучальных дапаможнікаў працягнуў Якуб Колас. Яго кніга «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» пабачыла свет у 1909 годзе. Як адзначаецца ў вучэбнай літаратуры: «З пункту гледжання тэматыкі, асаблівасцей стылю і мовы кніжка Якуба Коласа складзена больш удала, чым чытанка Цёткі: яна больш адпавядае патрабаванням дзіцячага ўзросту, больш markdownразнабакова адлюстроўвае жыццё, вызначаецца паслядоўнасцю пабудовы, адзінствам стылю, маляўнічасцю мовы».

**Аўтар**. Аўтарам кнігі з'яўляўся Якуб Колас (сапраўднае імя — Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) — асоба таленавітая, працаздольная і ў прафесійным плане падрыхтаваная. Ужо ў 12 год ён напісаў свой першы верш «Вясна», за што быў заахвочаны бацькам. У 1898 паступіў на казённы кошт у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, якую закончыў у 1902. Падчас вучобы захапляўся мастацкай літаратурай: чытаў творы А. С. Пушкіна, М. Ю. Лермантава, М. В. Гогаля, А. В. Кальцова, М. А. Някрасава, Л. Н. Талстога, І. Хемніцара, Т. Г. Шаўчэнкі, І. Я. Франко, А. Міцкевіча. Складаў вершы і байкі на рускай мове, збіраў матэрыялы па беларускай этнаграфіі, запісваў вусную народную творчасць. У гэты ж час пачаў ствараць вершы і празаічныя творы на беларускай мове. Складаў вершы аб прыродзе, нялёгкім існаванні селяніна, напісаў паэмы «Каля кастра» і «Страх», тэксты якіх не захаваліся, а таксама першы празаічны твор — нататку «Наша сяло, людзі і што робіцца ў сяле».

На першае дзесяцігоддзе XX стагоддзя прыпадае пачатак працоўнай дзейнасці і першыя праявы грамадскай актыўнасці Канстанціна Міцкевіча, жанравы дыяпазон яго літаратурных твораў пашыраецца, яны робяцца больш дасканалымі, тады ж з'яўляюцца і першыя публікацыі. Пасля заканчэння семінарыі (1902—1905) малады настаўнік працаваў на Палессі ў вёсках Люсіна (цяпер Ганцавіцкі раён), Пінкавічы (цяпер Пінскі раён), рабіў этнаграфічныя запісы, збіраў беларускі фальклор. У гэты ж час ён пазнаёміўся з нелегальнай рэвалюцыйнай літаратурай, праводзіў растлумачальныя гутаркі з сялянамі. Так, у лістападзе 1905 ён склаў петыцыю жыхароў Пінкавіч да памешчыка з патрабаваннем забяспечыць права сялян на карыстанне азёрамі і ўчасткам зямлі для пашы. У студзені 1906 года ў парадку пакарання за грамадскую дзейнасць Канстанціна Міцкевіча перавялі ў Верхменскае народнае вучылішча (цяпер Смалявіцкі раён). 9—10 ліпеня 1906 года ён прыняў актыўны ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, які адбыўся ў вёсцы Мікалаеўшчына. З'езд разагнала паліцыя, Канстанцін Міцкевіч у ліку іншых быў пазбаўлены права працаваць настаўнікам.

1 верасня 1906 года ў віленскай беларускамоўнай газеце «Наша доля» з'явіўся верш — гэта першы надрукаваны твор паэта. Тут упершыню быў

выкарыстаны псеўданім Якуб Колас. 15 верасня 1906 года ў «Нашай долі» пад псеўданімам Дзядзька Карусь змешчана апавяданне «Слабода» пра самавольства царскай паліцыі — першы надрукаваны празаічны твор пісьменніка. У той жа час ён пачынае актыўна супрацоўнічаць у якасці аўтара з віленскай беларускамоўнай газетай «Наша ніва». У творчасці Якуба Коласа гэтага перыяду з'яўляюцца новыя формы. Ён выходзіць на больш высокі ўзровень літаратурнай працы — пачынае пісаць алегарычныя апавяданні «Казкі жыцця», дзе па-філасофску асэнсоўвае добра вядумую яму рэчаіснасць.

Зіму 1906—1907 гадоў Я. Колас жыў у родных у леснічоўцы Смалярня, дзе без афіцыйнага дазволу адкрыў прыватную школу і пачаў складаць навучальны дапаможнік «Другое чытанне для дзяцей беларусаў». У 1907 годзе прыехаў у Вільню, некалькі тыдняў працаваў загадчыкам літаратурнага аддзела ў «Нашай ніве», але паводле загаду паліцыі быў вымушаны пакінуць горад. У пачатку 1908 года некаторы час выкладаў у прыватнай школе ў вёсцы Сані (цяпер Талачынскі раён). 15 верасня 1908 года Я. Колас быў асуджаны на 3 гады турэмнага зняволення паводле абвінавачання ў актыўных дзеяннях, накіраваных на выкананне праграмы Усерасійскага саюза настаўнікаў, які, як было заяўлена на судзе, меў на мэце ліквідацыю існуючага ў Расійскай імперыі грамадскага ладу (у тым ліку ў складанні адозвы да настаўнікаў, хоць пісаў яе іншы чалавек, якога Я. Колас суду не назваў). Увесь тэрмін пакарання Якуб Колас адбыў у Мінскім астрозе. За кратамі ўдавалася пісаць вершы і перапраўляць на волю. Рукапіс зборніка быў напісаны на лацінцы, але выдадзены на кірыліцы.

**Выдаўцамі** кнігі «Другое чытанне для дзяцей беларусаў», што была надрукавана ў польскай друкарні «К. Л. Пенткоўскаго, Б. Падъячэская, № 22», сталі пецярбургская суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» і кнігавыдавецкае таварыства «Наша хата». Гэта быў першы сумесны праект дзвюх выдавецкіх арганізацый Беларусі ў пачатку XX стагоддзя. На вокладцы стаіць «ПЕЦЯРБУРХ. 1910», а на тытульным лісце «ПЕЦЯРБУРХ. 1909». Як адзначае М. Нікалаеў: «Аб'яднанне дзеля друкавання адной кнігі дапамагло сканцэнтраваць сродкі і выйсці на максімальны для беларускай кнігі тыраж. Некаторыя перапетыі ў выданні чытанкі былі абумоўлены і арганізацыйнымі справамі. 1 студзеня 1909 года скончылася першая выдавецкая ўмова. З прычыны канфіскацыі зборнікаў Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» суполка ў гэты час не магла падрыхтаваць выданне, таму што было невядома, ці ўкладаўся расход у даход. Усё ж 30 красавіка 1909 года адбылася пераарганізацыя таварыства, пачатая праца пачала развівацца больш інтэнсіўна і «Другое чытанне...» Якуба Коласа выйшла ўжо пасля рэарганізацыі выдавецтва...».

**Структура, аб'ём выдання, тыраж.** Кніга складаецца з вокладкі, тытульнага ліста і 111 старонак тэксту, з якіх дзве старонкі займае змест («СПИС»). Тыраж — 6 тысяч асобнікаў, што для таго часу было надвычай немалая лічба, калі ў сярэднім тыражы беларускіх кніг вагаліся ад 2 да 4 тысяч. Фармат выдання $60 \times 84\,{}^{1}/_{16}$.

**Афармленне вокладкі** кнігі па замове выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» ажыццявіў Карусь Каганец — пісьменнік, мастак і аўтар першага беларускага падручніка «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (1906). Як адзначаецца ў манаграфіі «Гісторыя беларускай кнігі»: «Пры ўсёй прастаце задумы малюнка, які ўяўляў зімовы краявід з засыпанымі снегам хатамі і вясковым хлапчуком з кнігай, у працы К. Каганца адчуваецца пранікненне ў сутнасць з'явы, сімпатыя да маленькага героя, любоў да беларускага пейзажу».

**Мэтавае прызначэнне** літаратурна-мастацкага выдання з'яўляецца складаным і шматузроўневым паняццем. У сучаснай тэорыі рэдагавання тэкстаў існуе меркаванне, што акрамя агульнага мэтавага прызначэння варта выдзяляць розныя яго ўзроўні, непасрэдна звязаныя з прадметам адлюстравання. Сучасныя даследчыкі называюць кнігу Я. Коласа адбіткам «сацыяльна-культурнага ўніверсума, кожны кампанент якога заключае ў сабе адзінкі нацыянальнай самабытнасці, закадзіраваныя ў слове», і спрыяе духоўнаму адраджэнню і выхаванню нацыянальна-арыентаванай асобы. У сувязі з такой «дыфініцыяй» можна акрэсліць пяць асноўных узроўняў мэтавага прызначэння хрэстаматыі, думаецца, улацівых у большай ці меншай ступені многім выданням пачатку ХХ стагоддзя: педагагічны, лінгвадыдактычны, мовазнаўчы, літаратуразнаўчы і выдавецкі. Педагагічны і лінгвадыдактычны аспекты хрэстаматыі — і на гэта ўжо ўказвалі асобныя навукоўцы — прадугледжваюць пашырэнне жыццёвага кругагляду дзяцей, спрыяюць навучанню іх роднай мове, скіраваны на выхаванне высокіх грамадзянскіх, этычных і эстэтычных ідэалаў. Як сказана ў прадмове, напісанай Л. Сеўруком, кніга прызначана, каб «адвесці душу»: «Кепска было б табе саўсім, каб ты не меў кале сябе ў скрынцы ксёнжачкі, у каторай на тваёй роднай мове апісана ўсё, што ты бачыў і чуў на сваёй роднай старонцы». Літаратуразнаўчы ўзровень мэтавага прызначэння кнігі — спрыяць стварэнню беларускай дзіцячай літаратуры, удасканаленню сістэмы жанраў. Мовазнаўчы і выдавецкі аспекты — даць магчымасць чытачам і будучым аўтарам беларускіх кніг убачыць, «што значыць родная мова, напісаная на паперы, надрукованая у ксёнжцы», іншымі словамі, дапамагаць нармалізацыі графіка-арфаграфічнага афармлення беларускіх тэкстаў, удасканаленню выдавецкай практыкі, бо на той час «беларускія кнігі выдаваліся рускімі літарамі і лацінкай, па-

ранейшаму дыялектныя рысы вельмі моцна адчуваліся ў правапісе і граматычных нормах.

**Структура чытацкай аўдыторыі.** Чытачамі хрэстаматыі, мяркуючы па змесце, з'яўляюцца не толькі вучні другога класа, дзевяці-дзесяцігадовыя школьнікі, як прынята лічыць у навукова-метадычных працах, але і ўсе больш-менш граматныя жыхары тагачаснай Беларусі, не абмежаваныя ўзроставымі катэгорыямі, тэрыторыяй пражывання (горад, вёска), сацыяльным статусам (творчая інтэлігенцыя, навучэнцы, сяляне). Выкарыстоўваючы сучасную тэрміналогію, можна з упэўненасцю сцвярджаць, што выданне ва ўмовах, калі дэфіцыт беларускіх кніг быў неверагодна вялікім, прызначалася «масаваму чытачу», бо матэрыял кожнай тэмы быў разнастайны не толькі па змесце, але і па форме: «тут і апісанні прыроды, у якіх звычайна няма дзеяння («Летні поўдзень», «Мяцеліца»), і апавяданні аб саміх дзецях («Школа», «Зімовы вечар»), і алегарычныя апавяданні («Дуб і чароціна»), і вершы, байкі, казкі, і задачкі, якія маюць на ўвазе развіццё самастойнага мыслення дзяцей («Задачка»)».

**Унутраная структура кнігі і выбар жанраў** абумоўлены мэтай і задачамі дапаможніка, падыходамі выдаўцоў да стварэння такіх кніг, аўтарскай канцэпцыяй. Складаецца выданне з 84 твораў, падзеленых на сем частак («аддзелаў»). Першыя чатыры «аддзелы» прысвечаны порам года: кожны з іх пачынаецца творам з адпаведнай назвай «Вясна», «Лета», «Восень», «Зіма». «Такое кампазіцыйнае размяшчэнне твораў, — адзначае І. Саматыя, — дае аўтару магчымасць пераканаўча паказаць пераемнасць і ўзаемазвязанасць з'яў прыроды, а таксама гармонію паміж прыродай і чалавекам». Пяты раздзел мае назву «Родныя вобразы» і распавядае пра жыццё беларускай вёскі. Шосты раздзел уключае вершы, сёмы — казкі. Сярод твораў 30 вершаваных тэкстаў, што складае 35,8 % ад агульнай колькасці твораў, і 54 празаічныя (64,2 %). Падача твораў у хрэстаматыі ажыццяўляецца па тэматычным (1—4 раздзелы) і жанравым (два апошнія раздзелы) прынцыпах. Размеркаванне твораў унутры хрэстаматыі прыведзена ў табліцы.

| Раздзел | Колькасць старонак | Колькасць твораў | |
|---|---|---|---|
| | | проза | паэзія |
| I АДДЗЕЛ | 13,2 (12,4 %) | 7 | 4 |
| II АДДЗЕЛ | 18,8 (17,7 %) | 12 | 4 |
| III АДДЗЕЛ | 19 (17,9 %) | 9 | 5 |
| IV АДДЗЕЛ | 16 (15 %) | 8 | 4 |
| V АДДЗЕЛ | 16 (15 %) | 7 | 4 |

*Канчатак табл.*

| Раздзел | Колькасць старонак | Колькасць твораў | |
|---|---|---|---|
| | | проза | паэзія |
| VI АДДЗЕЛ «Вершы і байкі» | 8 (7,5 %) | — | 9 |
| VII АДДЗЕЛ «Казкі» | 15 (14,1 %) | 11 | — |
| Усяго | 106 | 54 | 30 |

Першыя чатыры раздзелы чытанкі маюць цыклічную структуру. Аўтар паступова прасочвае пачатак кожнай пары года — з'яўленне новых прыкмет і пераход яе ў наступную. Пачынаецца кніга апісаннямі змен у прыродзе, якія прыносіць вясна, бо гэтая пара года асабліва важны этап у жыцці прыроды.

Пры дапамозе алегорыі аўтар стварае непаўторныя вобразы лесу, сонца, ветру, марозу, ночы. У апавяданні «Ручай» праз мову кропелек ручайка аўтар прапаноўвае дзецям тлумачэнні, як утвараюцца ручайкі і нават пра з'яву кругазвароту вады ў прыродзе. Апавяданне «Дуб і чароціна» вучыць дзяцей быць вынослівымі, мужнымі, рашучымі, упэўненымі, непахіснымі ў дасягненні сваёй мэты. Выхаваўчыя ідэі многіх твораў арганічна спалучаюцца з адукацыйным матэрыялам.

У апошнім раздзеле Я. Колас змясціў 11 апрацаваных ім беларускіх казак. Тут прадстаўлены казкі дзвюх разнавіднасцей: казкі пра жывёл і сацыяльна-бытавыя. Казкі пра жывёл невялікія па сваіх памерах, адпавядаюць узроставым асаблівасцям дзяцей 5—7 год, у іх выразна выяўляецца выхаваўчая скіраванасць: высмейваецца зайздрасць, сквапнасць, абмежаванасць, палахлівасць («Воўк-дурань», «Леў і воўк», «Два зайцы»). Казкі сацыяльна-бытавога зместу давалі магчымасць Коласу сцвердзіць маральную перавагу простага мужыка над прадстаўнікамі іншых сацыяльных груп («Мужык і цыган», «Два маразы», «Мужык і пан»).

Можна заўважыць у кнізе і цікавы метадычны прыём, выкарыстаны аўтарам: побач знаходзяцца асобныя апавяданні і вершы, якія апісваюць разнастайныя малюнкі прыроды. Напрыклад, у першым раздзеле спачатку чытаем празаічную замалёўку «Вясна», затым верш з такой назвай, у трэцім раздзеле «Позняя восень» і тут жа верш «Восень». Фактычна гэта было выяўлена ў хрэстаматыі А. Пашкевіч. «Вершы паэтызуюць тое, пра што гаворыцца ў прозе, а проза канкрэтызуе ў жыццёвай прастаце і дасціпнасці тое, што апісваецца ў вершах».

**Высновы.** Кнігі, выдадзеныя Карусём Каганцом, Алаізай Пашкевіч і Я. Коласам з'явіліся важным этапам у творчай і педагагічнай дзейнасці пісьменнікаў і на шляху станаўлення ўсёй беларускай дзіцячай літаратуры.

«Быў зроблены значны крок па шляху стварэння літаратурнай мовы — мовы навучальнай. Гэта быў жыццёва неабходны падмурак для дзейнасці нацыянальнай школы», — піша Алена Руцкая.

Выданне гэтых кніг было працягам традыцый стварэння кніг вучэбнага характару на Беларусі, якая ідзе ад:

— Францыска Скарыны (яго першая кніга «Псалтыр» (1517), выдадзеная ў Празе, доўгі час выкарыстоўвалася для навучання дзяцей і дарослых грамаце);

— С. Буднага, Л. Крышкоўскага і М. Кавячынскага, намаганнямі якіх у 1562 годзе ў Нясвіжскай друкарні была выдадзена першая кніга на старабеларускай мове на тэрыторыі Беларусі — «Катэхізіс», створаная для таго, каб «деток своих научали»;

— брацкіх друкарань (брацкія школы і адчыненыя пры іх друкарні, якія дзейнічалі ў Вільні, Еўі, Магілёве), дзе быў надрукаваны першы буквар Лаўрэнція Зізанія «Науку читаню и розуменю письма словенского» у 1596, які складаўся з лемантара (азбукі), катэхізіса, лексіса Мялеція Сматрыцкага і самай вядомай з беларускіх граматык — «Грамматики словенския правильное синтагма» (1619);

— намаганнямі вядомага магіляўчаніна Спірыдона Собаля былі адчынены 2 друкарні. Ён на беларускай мове выдаў «Малітвы паўсядзённыя», «Буквар» (1631), «Часаслоў» (1632). У 1635 пачалі працаваць друкарні ў Буйнічах.

Многія ідэі і традыцыі аўтараў першых беларускіх кніжак для школы з поспехам выкарыстоўваюць складальнікі сучасных падручнікаў і чытанак для дзяцей, якія выдаюцца ў Беларусі дзяржаўнымі і недзяржаўнымі выдавецтвамі.

На пачатку XX стагоддзя пры адсутнасці беларускіх арфаграфічных, арфаэпічных нормаў, калі за аснову браліся правілы правапісу рускай мовы, а аўтарскае моўнае чуццё было адзіным «нарматыўным» крытэрыем, ускосна, г. зн. з улікам наяўных літар у слове, устанавіць вымаўленне асобных беларускамоўных лексічных адзінак было немагчыма. Таму выдаўцы кнігі (суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша Хата») і Я. Колас актыўна выкарыстоўвалі спецыяльны знак націску, добра разумеючы, што ён з'яўляецца зрокавай падтрымкай для вымаўлення і правільнага распазнання слова пры чытанні; спрыяе выпрацоўцы адзіных акцэнталагічных нормаў новай беларускай літаратурнай мовы; належыць да традыцыйных знакаў «аптымальнага» варыянта беларускага пісьма.

Знак націску ў выданні Я. Коласа стаіць на ўсіх літарах, за выключэннем *ё* (*гнёзды, зялёнымі, жыццё, цёмною*), што сведчыць пра адназначную яе ролю ў друкаваным беларускамоўным тэксце ўжо ў пачатку XX стагоддзя — перадаваць на пісьме толькі націскны гук [о].

Пры дапамозе спецыяльнага знака націску Я. Колас сістэмна, творча і паслядоўна звяртае ўвагу чытача на:

— спецыфіку беларускага вымаўлення фанетычна блізкіх лексем у рускай і беларускай мовах;

— правільнасць акцэнтуацыі малазнаёмых (запазычаных, дыялектных) слоў;

— такую пазіцыйную асаблівасць беларускага слоўнага націску, як рухомасць;

— адрозненне ў сказе амографаў і граматычных формаў слоў;

— выдзяленне семантычна важных слоў фразы.

Там, дзе граматычную форму дазваляе ўстанавіць кантэкст, знак націску пісьменнік не ўжывае: *Там бедная маці **плакала**, стоячы над маленькаю труною свайго сына, як **засыпалі** яго магілку сырою зямлёю* (с. 23); *Многа іх, струхлеўшых, **пападала** на зямлю* (с. 74).

Такім чынам, выкарыстоўваючы знак націску, Я. Колас імкнуўся ўзняць на належны ўзровень культуру чытання і распазнавання беларускамоўнага тэксту; аблегчыць разуменне твораў нацыянальнай літаратуры для розных катэгорый грамадзян; дапамагчы тым, хто не толькі жадаў навучыцца чытаць і гаварыць па-беларуску, але і засвоіць асноўныя нормы (лексічныя, акцэнталагічныя, арфаграфічныя) мовы беларускага народа, неабходныя для ажыццяўлення зносін у грамадстве; дапамагчы пераадолець псіхалагічны бар’ер паміж чытаннем і гаварэннем. Адным словам, усё тое, на што не звяртаюць увагу нашы сучасныя выдаўцы падчас падрыхтоўкі кнігі да выпуску ў свет.

Першыя школьныя падручнікі і хрэстаматыі рыхтаваліся да друку паралельна на кірыліцы і лацініцы. «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (1906) К. Каганца, а таксама «Першае чытанне для дзетак беларусаў» (1906) Цёткі былі выдадзены амаль адначасова на лацініцы і кірыліцы. «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» (1909) Я. Коласа было падрыхтавана ў рукапісе на лацініцы, аднак выдадзена толькі на кірыліцы.

**Заданне 5.**

**Мужык і гадзіннік**

Ішоў дарогаю мужык. На дарозе ляжаў **гадзіннік**. Мужык ніколі не бачыў **гадзіннік** і не ведаў, што ён знайшоў. Ён стаў і пазірае.

— Ці не гадзюка гэта якая? — падумаў мужык, бо ў **гадзінніка** быў **бліскучы** ланцужок, а цёмнаму мужыку здалося, што гэта хвост вужакі. Ён пырнуў **гадзіннік** палкаю! Не! Не варушыцца. Нагнуўся, каб разгледзець, чуе — чыкае. Мужыку здалося, што ён пытае**цца**:

— **Чый ты? чый ты? чый ты?**

— Чый я? А во чый я!

Схапіў мужык **гадзіннік** за ланцужок і разбіў яго аб камень.

**Заданне 6.**

1. Зямлю ўгноіш, **хлеба** падвоіш.
2. З песні **слова** не выкінеш.
3. З чужой **бяды** не смейся.
4. Паміраць збірайся, а **жыта** сей.
5. Навуку за **плячыма** не носяць.
6. Не за сваю **справу** не бярыся.
7. Шыла ў **мяшку** не схаваеш.
8. Выказанага **слова** да губы не вернеш.
9. За грошы **розуму** не купіш.
10. У лес **дроў** не возяць.
11. Салаўя **баснямі** не кормяць.
12. Работу **словам** не заменіш.

**Заданне 7.**

| Апорны кампанент | Значэнне кампанента | Словы-прыклады |
|---|---|---|
| -ген | Указвае на сувязь з паняццямі «паходжанне», «утварэнне» | Андраген, міяген |
| -граф | Абазначае асобу, што піша, або прыбор, што запісвае | Геліёграф, сейсмограф |
| -логія | Адпавядае паняццям «навука», «вучэнне», «веды» | Астэалогія, філалогія, гаплалогія |
| -ман | Адпавядае паняццю «заўзяты аматар» | Меламан, кліптаман |
| -фобія | Адпавядае паняццям «нецярпімасць», «боязь» | Агарафобія, русафобія |
| -кардыя | Указвае на захворванне сэрца або парушэнне сардэчнай дзейнасці | Тахікардыя, стэнакардыя |

**Заданне 8.**

1. Васіль першы з прысутных пазнаў Ганну.
   Васіль пазнаў Ганну першую сярод прысутных.
2. Толькі плачуць, а нічога іншага не робяць.
   Толькі ў бядзе плачуць, у іншай сітуацыі не плачуць.
3. Як мага шырэй трэба паведаміць пра падзеі.
   Паведаміць пра падзеі шырэй — магчыма.

**Заданне 9.**

Спачатку неабходна знайсці граматычныя катэгорыі, па якіх змяняецца хаця б адно слова з прыведзенага спіска.

1. Склон. Па склонах змяняюцца ўсе прыведзеныя словы, акрамя *дзесьці*.

2. Лік. Словы *парта, дачка, белы, шосты, які* змяняюцца па ліках, астатнія словы па ліках не змяняюцца (зборны назоўнік *студэнцтва*, займеннік *хто*, лічэбнікі *два, тры, чатыры, пяць,* прыслоўе *дзесьці*).

3. Род. Змяняюцца па родах *белы, пяты, які,* а таксама *два, шосты.* Астатнія словы па родах не змяняюцца. Такія словы, як *пяць* роду не маюць, а такія словы, як *стол*, маюць фіксаваны род.

4. Адушаўлёнасць. Па гэтай граматычнай катэгорыі змяняюцца *белы, пяты, які* (бачу *пятага* хлопца і бачу *пяты* дом: тут формы *пятага* і *пяты* — гэта формы вінавальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду; гэтыя формы адрозніваюцца толькі па адушаўлёнасці і неадушаўлёнасці), а таксама *два, тры, чатыры* (бачу *двух* чалавек і бачу *два* сталы).

5. Ступень параўнання. Па ступенях параўнання змяняецца толькі прыметнік *белы*.

6. Граматычная катэгорыя «супрацьпастаўленне поўных і кароткіх формаў». Гэтае супрацьпастаўленне прадстаўлена толькі ў слова *белы*.

7. У асобны клас выдзяляем нязменнае слова *дзесьці*.

| Клас | Словы, якія адносяцца да яго | Граматычная катэгорыя | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Склон | Лік | Род | Адушаўлёнасць | Ступень параўнання | Супрацьпастаўленне поўных і кароткіх формаў |
| 1 | Белы | + | + | + | + | + | + |
| 2 | Шосты, які | + | + | + | + | – | – |
| 3 | Парта, дачка | + | + | – | – | – | – |
| 4 | Два | + | – | + | + | – | – |
| 5 | Тры, чатыры | + | – | – | + | – | – |
| 6 | Пяць, хто, студэнцтва | + | – | – | – | – | – |
| 7 | Дзесьці | - | – | – | – | – | – |

**Заданне 10.**

а) балець — болеть (лексічнае значэнне супадае):

1) адчуваць боль, турбавацъ (душа баліць за...);
2) хвалявацца за поспехі каманды, спартсмена.

б) абзадачыць — обзадачить (лексічнае значэнне не супадае).

Па-беларуску:

1) даць задатак за што-небудзь;
2) абмеркаваць, вырашыць значную справу.

Па-руску:

1) збянтэжыць;
2) даць задачу, заданне.

в) абразок — образок (лексічнае значэнне не супадае).

Па-беларуску:

1) малюнак Бога або святога;
2) жанр лірычных мініяцюр.

Па-руску: абраз, ікона.

**Заданне 11.**

а) брацца за сэрца
б) брацца верх
в) брацца на ўсе застаўкі
г) брацца прыклад
д) брацца сябе ў рукі

**Заданне 12.**

| Суфікс | Пары слоў |
|---|---|
| -н- | надзея → надзейны |
| -ов- (-ав-) | *гонар → ганаровы, ласка → ласкавы* |
| -купат- (-яват-) | *тоўсты → таўставаты, гультай → гультаяваты* |
| -аст- (-яст-) | *язык → языкасты, віхляць → віхлясты* |
| -іст- (-ыст-) | *агонь → агністы, золата → залацісты* |
| -ів- (-ыв-) | *праўда → праўдзівы, ілжа → ілжывы* |

**Заданне 13.**

Адказ: 1В; 2А; 3Б; 4Г; 5Д

Абгрунтаванне: У якасці абгрунтавання могуць быць прыведзеныя наступныя аргументы:

1. Назвы двух цыклаў арыентуюць на мінуўшчыну — «Старая Беларусь» і «Старая спадчына». Аднак слова «спадчына» ў другой назве паказвае на «актуальнасць» былога, на выкарыстанне гэтай спадчыны. Такім чынам, найбольш адпаведны эпіграф — Д.

2. Акрамя таго, сярод прыведзеных апіграфаў толькі адзін належыць беларускаму аўтару — Я. Купалу, а змест купалаўскіх радкоў найлепш

адпавядае паняццю «Старая Беларусь». «Глыбокае слова» і «Думы» — паняцці аднаго семантычнага поля.

3. Назва раздзела «Малюнкі і спевы» арыентуе на вобразна-выяўленчы паказ рэалій жыцця, чаму адпавядае змест радкоў з верша А. Фета.

**Заданне 14.**

Адказ: б) Цётка

Абгрунтаванне: Верш эмацыянальна прасякнуты аптымізмам, верай у будучыню і перамогу, рэвалюцыйным запалам, што характэрна для паэзіі Цёткі. Малюецца карціна ўсеагульнага паўстання, барацьбы, сумеснага дзеяння розных пакаленняў. У вершы няма пейзажных апісанняў, рытарычных пытанняў, складанай сімволікі, характэрных для творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. У адрозненні ад Максіма Багдановіча верш не апелюе ні да прыроды, ні да гісторыка-культурнай спадчыны. Асноўныя вобразы верша — абагульненыя вобразы людзей (дзед, унук, хлопец і г. д.). Агульнаму стылю творчасці Цёткі адпавядаюць вобразы «граюць маршы», «шчабечуць птушкі аб свабодзе», «на барыкадах смела стаіць», «мільёны разам у згодзе». Як паэтэса-рэвалюцыянерка, Цётка сцвярджае, што «важны момант прыходзіць», у той час як асноўны матыў ранняй паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча — «Беларусь дачакаецца», «скора загукаю», «прыйдзе той дзень», іначай кажучы актыўнае дзеянне суадносіцца з будучыняй, а не з цяперашнім момантам.

Зварот «браце родны» аналагічны радку «веру, братцы, людзьмі станем». Могуць быць таксама прыведзеныя аргументы, звязаныя з асаблівасцямі мовы і паэтычнага сінтаксісу.

**Заданне 15.**

| Твор | Аўтар |
|---|---|
| Прадмовы да кніг Бібліі | *Францыск Скарына* |
| «Трэнас» | *Мялецій Сматрыцкі* |
| Прадмова да «Катэхізіса» | *Сымон Будны* |
| Прадмова да «Евангелля» | *Васіль Цяпінскі* |
| «Пруская вайна» | *Ян Вісліцкі* |

**Заданне 16.**

1. Загадкі (трактар, мячык, аловак)
2. Замова
3. Прыказкі (прымаўкі)
4. Легенда (паданне)

**Заданне 17.**

а) белы *білет*
б) белы *свет*
в) белы *вугаль*
г) белы *дзень*
д) белы *верш*
е) залатая *галава*
ж) залатая *восень*
з) залатая *моладзь*
і) залатая *сярэдзіна*
к) залатая *жыла*

**Заданне 18.**

а) сырадой
б) падабед
в) воўна
г) маладзік
д) поплаў
е) чыгунка
ж) паветка
з) гляк
і) покуць
к) пасад

**Заданне 19.**

| Героі твора | Твор |
|---|---|
| Шкаляр Самахвальскі, пан Бараноўскі, Мальвіна. | *«Несцерка»* |
| Мульцік, Ганна, Гастрыт. | *«Вечар»* |
| Калібераў, Моцкін, Печкуроў, Гарошка. | *«Выбачайце, калі ласка»* |

## ВАРЫЯНТ 2

**Заданне 1.**

Адказ: 2, 5

**Заданне 2.**

Адказ: а), в), г)

**Заданне 3.**

З'яўленне першага гука [а] абумоўлена законам акання, г. зн. пераход ненаціскнога гука [о] ў гук [а]. Спалучэнне ***ія*** замест ***еа*** тлумачыцца тым, што для фанетыкі беларускай мовы нехарактэрнымі з'яўляюцца спалучэнні двух галосных гукаў у межах адной марфемы. Таму паміж такімі галоснымі ў многіх словах з'яўляецца ўстаўка гука [j], які, згодна з нормамі беларускай арфаэпіі, павінен вымаўляцца выразна. Напрыклад: *педыятр*, *сіямскі*, *біёлаг*.

**Заданне 4.**

а) крывіцкі
б) сілезскі
в) баранавіцкі
г) рамесніцкі

д) іракскі
е) грамадскі
ж) латышскі
з) начальніцкі

**Заданне 5.**

А д к а з: в), г)

**Заданне 6.**

2. Зразумела, ніякіх вокнаў не было, толькі адна дзірка, якая служыла **дзвярыма**.
3. Міхась напаіў **коней**, пасля выкупаўся ў возеры.
4. Чаму шмат на гэтым вабным свеце бед і **гора**, **слёз** і пакут?
5. Ілля дастаў з рукзака паўбохана хлеба, шматок сала, бляшанку ***кансерваў***.

**Заданне 7.**

А д к а з: д)

**Заданне 8.**

Я *гасцюю, драмлю, дзяўбу, гашчу, тру, пяку, ламлю, ем*.

**Заданне 9.**

А д к а з: 1В; 2Г; 3Б; 4Д; 5А

**Заданне 10.**

А д к а з: 2, 5

**Заданне 11.**

А д к а з: г) альтанка

**Заданне 12.**

А д к а з: 2

**Заданне 13.**

А д к а з: б), д)

**Заданне 14.**

А д к а з: а), д), е), з)

**Заданне 15.**

Кішэннага фармату кніжка **змяшчае** мноства цікавых фактаў з гісторыі краіны і народа. Асноўны (практычны) матэрыял **складаецца** з сямі актуальных раздзелаў: «Агульнаўжывальныя словы і выразы»; «Маўленчы этыкет»; «Чалавек. Асоба»; «У горадзе»; «У магазіне»; «Харчаванне»;

«Здароўе і спорт». Такая структура **спрыяе** зручнаму пошуку патрэбнага слова або фразеалагізма, іх беларускіх эквівалентаў. Упэўнены, размоўнік **дапаможа (спатрэбіцца)** не толькі рускамоўным асобам, але і нам, беларусам, удасканаліць сваё маўленне і пазнаёміцца з самабытнымі слоўцамі і канструкцыямі: *коротать время вечером — вечараваíць*, *лето следующего года — налéцце*, *перед рассветом — нацямочку*, *участник застолья, званый гость — бяседнік* і г. д.

**Заданне 16.**

Адказ: 1Е; 2Ж; 3А; 4Д; 5В; 6З; 7Г; 8Б

**Заданне 17.**

1. Зарубіць **сабе** на носе.
2. Чуць на **свае** вушы.
3. Не з **тваімі** рукамі.
4. На **ўсе** лады.
5. Скінуць з **сябе** ветхага Адама.
6. Перарабіць на **свой** капыл.

**Заданне 18.**

| Слова | Азначэнне | Род |
|---|---|---|
| посуд | *сталовы* | *мужчынскі род* |
| плеш | *вялікі* | *мужчынскі род* |
| горыч | *нечаканая* | *жаночы род* |
| небарака | *малы, малая* | *агульны род* |
| абцугі | *сталёвыя* | *адсутнасць катэгорыі роду* |
| каліва | *маленькае* | *ніякі род* |

## ВАРЫЯНТ 3

**Заданне 1.**

Адказ: 1, 2

**Заданне 2.**

Адказ: А4; Б5; В2; Г1; Д3

**Заданне 3.**

Слова: *траляваць*

**Заданне 4.**

Адказ: 3, 5

**Заданне 5.**

Адказ: 2, 3, 4

**Заданне 6.**

Адказ: а), в), д)

**Заданне 7.**

Адказ: г)

**Заданне 8.**

Адказ: 3

**Заданне 9.**

Адказ: в), ж)

**Заданне 10.**

| Лексіка-семантычныя група | Словы |
|---|---|
| Першы элемент складанага слова абазначае якасць, што ўспрымаецца органамі пачуццяў | *Г**о**рачаўстойлівасць, глух**а**нямы, зв**о**нкагалосы.* |
| Першы элемент складанага слова абазначае якасці, што выражаюць часавыя, прасторавыя і ўзроставыя характарыстыкі | *Кар**о**ткачасовы, старш**а**класнік, блізк**а**ўсходні.* |
| Першы элемент складанага слова абазначае якасці, што выражаюць меру і ступень праяўлення чаго-небудзь | *Мн**а**гажанравы, глыб**о**капаважаны, п**о**ўнаўладна.* |
| Першы элемент складанага слова абазначае якасці, што выражаюць маральныя, фізічныя, псіхалагічныя, сацыяльныя адзнакі чалавека | *К**а**савокасць, д**о**бразычлівы, н**е**дружалюбна, слаб**а**волле.* |

**Заданне 11.**

Адказ: а)

**Заданне 12.**

Іду па ранішнім парку, ахутаным першымі лістападаўскімі прымаразкамі. **Любуюся (захапляюся)** хвояй. Я спыняюся, гляджу вакол: уздоўж сцяжыны **растуць (стаяць)** бярозы, у густую сетку голля якіх сям-там

праціснуліся і красуюцца кудлатыя хвоечкі, па-навагодняму прыбраныя ў бель. І раптам мне падалося, што па серабрыстай траве нешта шархаціць. Калі **прыслухаўся** да шоргату, я падумаў, што гэта бяжыць вавёрка. Я **прыгледзеўся** да шэрані, але нічога не ўбачыў на насціле. Ашуканы, я **падыходжу** да бяроз бліжэй і разумею, што гэта з голля паціху асыпаецца лішняе срэбра. (*Паводле Янкі Брыля*).

**Заданне 13.**

Стыль — гутарковы, тып маўлення — апавяданне.

**Заданне 14.**

Адказ: А4; Б1; В5

**Заданне 15.**

| | |
|---|---|
| Назоўнікі | *раёне, энцыклапедыі* |
| Прыметнікі | *былое, Вялікае, Літоўскае, мясцовыя* |
| Дзеясловы | *распытаемся, стаяла,* |

**Заданне 16.**

*Покупатель — пакупнік, носитель — носьбіт, читатель — чытач, издатель — выдавец, показатель — паказчык, избиратель — выбаршчык.*

**Заданне 17.**

1. Літары
2. Словы
3. Сказы
4. Абзацы

**Заданне 18.**

Адказ: а), б), г)

**Заданне 19.**

1. Канула ў лету — *знікла бясследна*
2. Далася ў знакі — *надоўна запомніцца*
3. Дамоклаў меч — *пастаянная небяспека*
4. Абіваў парогі — *шматразова паяўляўся*

## ВАРЫЯНТ 4

**Заданне 1.**

Яго звалі Кастусём Каліноўскім. Яму было ўсяго дваццаць шэсць гадоў. За такі час большасць людзей паспявае зрабіць мала. А ён паспеў **стварыць** вольную беларускую прэсу, **пасеяць** насенне народнага гневу, узрасціць

яго і зжаць пасеў. Спачатку ён кіраваў паўстанцамі Гродзеншчыны, а потым **усклаў** на свае юныя плечы паўстанне ўсёй Беларусі і Літвы. І калі белае панства здрадзіла і пакінула ўзброены народ, Каліноўскі **ўзначаліў** яго і неймавернай сілай волі трымаўгэты цяжар пяць месяцаў.

Стыль — публіцыстычны. Прызначэнне тэксту — інфармацыя і эмацыйнае ўздзеянне на свядомасць чытача. Ва ўрыўку ёсць: а) грамадска-палітычная лексіка публіцыстыкі і ўласцівыя публіцыстычнаму стылю штампы: *вольная беларуская прэса, пасеяць насенне народнага гневу, узброены народ*; б) словы і выразы з пераносным значэннем: *юныя плечы, белае панства здрадзіла* і г. д.

**Заданне 2.**

1. Будынак для жылля.
2. Сям'я.
3. Сялянскі двор, сядзіба.
4. Гаспадарка, розная сялянская маёмасць.

**Заданне 3.**

| Суфікс | Назоўнік мужчынскага роду | Назоўнік агульнага роду |
|---|---|---|
| -ачк- / -ячк- | *мужчыначка* | *сіротачка, нецярпячка* |
| -ышч- / -ішч- | *шчупачышча* | *дурнішча* |
| -л- | *граміла* | *зубрыла, запявала* |
| -ул- / -юл- | *татуля* | *капрызуля* |
| -ейк- | *зяцейка* | *госцейка* |

**Заданне 4.**

Альтэрнатыва — *выбар*; бойфрэнд — *сябар*; брэнд — *гандлёвая марка*; экзіт-пул — *апытанне на выхадзе*; эксклюзіўны — *выключны*; дайвінг — *падводнае плаванне*; кантэнт — *інфармацыйнае напаўненне*; о-кей — *так, добра*; сінгл — *сольны канцэрт*; трэнд — *тэндэнцыя*.

**Заданне 5.**

Адказ: 1В; 2Ж; 3А; 4З; 5Г; 6Е; 7Д; 8Б

**Заданне 6.**

1) Полівалентная (поліфункцыянальная) — г. зн. прымяняльная для абслугоўвання ўсіх сфер нацыянальнага жыцця.

2) Нарміраваная (у адносінах арфаграфіі і арфаэпіі, граматыкі і слоўніка).

3) Агульнаабавязковая для ўсіх членаў нацыянальнага калектыву і не дапускае дыялектных варыянтаў.

4) Стылістычна дыферэнцыраваная.

**Заданне 7.**

| Н. скл., мн. лік | Н. скл., адз. лік | Р. скл., адз. лік | М. скл., адз. лік |
|---|---|---|---|
| хаты | хата | хаты | у хаце |
| атопкі | *атопак* | *атопка* | *атопку* |
| бравэркі | *бравэрка* | *бравэркі* | *бравэрцы* |
| брылі | *брыль* | *брыля* | *брылі* |
| быльнягі | *быльнёг* | *быльнягу* | *у быльнягу* |
| нажуткі | *нажутка* | *нажуткі* | *у нажутцы* |

**Заданне 8.**

а) *абылгаць*
б) *суперінвестыцыі*
в) *пайменны*
г) *постінфарктны*
д) *спецінструктаж*
е) *безынфляцыйны*
ж) *праігнараваць*

**Заданне 9.**

*Каравай замясіць песнямі*... Сэнс гэтай метафары зусім ясны; каравай у вясельным абрадзе ўвогуле ёсць сімвал багацця і шчасця, ну, а каравай, замешаны «песнямі весяленькімі», — тым больш. У метафары — сімвалічнае пажаданне не толькі багацця, але і радасці, весялосці, душэўнай акрыленасці на ўсё жыццё.

**Заданне 10.**

**Каб любіць Беларусь нашу мілую,**
**Трэба ў розных краях пабываць.**
Разумею цяпер, чаму з выраю
Жураўлі на Палессе ляцяць.

1. Алесь Ставер
2. Ігар Лучанок
3. «Песняры»
4. «Бывайце здаровы»

**Заданне 11.**

1. Ла́зня
2. Дзяржа́ўны банк
3. Для выкліку міліцыі наці́сніце кнопку
4. Чыгу́начныя ка́сы

5. Пункт аховы здароўя
6. Пафарбава́на
7. Небяспе́чна для жыцця!
8. Асцярожна, злы сабака!
9. Цыру́льня
10. Раскла́д ру́ху
11. Ашча́дны банк
12. Белсаюздру́к
13. Прыва́тная аўтастаянка

**Заданне 12.**

*Амбрусія* (2), *верашчака* (1), *груца* (1), *жур* (2), *здор* (1), *кляновік* (2), *пляцка* (1), *праснак* (1), *таркаванец* (1), *ялавічына* (1).

**Заданне 13.**

*Высокі бераг* — словазлучэнне простае, свабоднае, назоўнікавае, словы звязаны поўным дапасаваннем, паміж імі выражаюцца азначальныя адносіны.

*Падмываюць бераг* — словазлучэнне простае, свабоднае, дзеяслоўнае, словы звязаны беспрыназоўнікавым моцным кіраваннем, паміж імі выражаюцца аб'ектныя адносіны.

*Паступова абвальваюцца* — словазлучэнне простае, свабоднае, дзеяслоўнае, словы звязаны прымыканнем, паміж імі выражаюцца адносіны спосабу дзеяння.

*Абвальваецца ў возера* — словазлучэнне простае, свабоднае, дзеяслоўнае, словы звязаны прыназоўнікавым кіраваннем, паміж імі выражаюцца акалічнасныя прасторавыя адносіны.

**Заданне 15.**

*Верасնёўскае (паветра)* — прыметнік, пачатковая форма *верасնёўскі*, адносны, у ніякім родзе, адзіночнага ліку, назоўным склоне, дапасуецца да назоўніка паветра, у сказе выконвае функцыю дапасаванага азначэння.

*Прыемнай (свежасцю)* — прыметнік, пачатковая форма *прыемны*, якасны, у жаночым родзе, адзіночнага ліку, творным склоне, дапасуецца да назоўніка свежасць, у сказе выконвае функцыю дапасаванага азначэння.

**Заданне 16.**

1. Росквіт ніў святкуе лета, час жніва **не за гарой** (*А. Александровіч*). 2. Мужчыны **дзень пры дні** выязджалі ў поле (*І. Мележ*). 3. Мікалай пачаў даказваць, што аперацыя на апендыцыт — глупства, але Вера **стаяла на сваім** (*У. Дамашэвіч*). 4. Ну а ў бары па верасу грыбоў — **хоць закладай касу** (*Р. Барадулін*). 5. Важна **рэй** Ігнат Буйніцкі ў танцах нашых **водзіць** (*Я. Купала*).

**Заданне 17.**

*Далёка* — прыслоўе месца, утворана ад прыметніка *далёкі* пры дапамозе суфікса **-*а***.

*Недзе* — прыслоўе месца, утворана ад прыслоўя *дзе* пры дапамозе прыстаўкі ***не-***.

**Заданне 18.**

1. Сказ просты, апавядальны, сцвярджальны, двухсастаўны, развіты, няўскладнены, поўны.

2. Сказ просты, апавядальны, сцвярджальны, двухсастаўны, развіты, ускладнены ўстаўным сказам (*у лесе яшчэ шмат снегу*), поўны.

3. Сказ просты, апавядальны, сцвярджальны, аднасастаўны (інфінітыўны або безасабовы), развіты, ускладнены звароткам (*героі*), поўны.

**Заданне 19.**

*Сціямнела* — просты дзеяслоўны выказнік, выражаны безасабовым дзеясловам; *добра* — акалічнасць спосабу дзеяння, выражаная якасным прыслоўем; *крупінкі* — дзейнік, выражаны назоўнікам множнага ліку, назоўнага склону; *сыпаліся і сыпаліся* — просты дзеяслоўны ўскладнены выказнік, выражаны дзеясловамі абвеснага ладу; *снегавыя, хмарнага, нізкага* — дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі; *з неба* — акалічнасць месца, выражаная назоўнікам з прыназоўнікам.

**Заданне 20.**

**«У белы Храм дарогі ўсе вялі»:**
**баладная паэзія Віктара Шніпа**

Стаж знаходжання цікавага арыгінальнага паэта Віктара Шніпа на службе (калі ўжываць канцылярызмы, то да канца) яе вялікасці Паэзіі даволі значны, і, па сутнасці, складае амаль тры дзесяцігоддзі, калі лічыць ад першай публікацыі «Сямнаццаць мне», якую зрабіў 17-гадовы юнак у «Чырвонай змене». З гэтага часу ягоныя падборкі і пачалі з’яўляцца ў тагачаснай абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. Хаця ў паэзіі, як і наогул у мастацтве, лічбам не даецца веры, у дадзеным выпадку прыйдзецца надаць ім пэўнае значэнне, бо Віктар Шніп — адзін з тых нешматлікіх паэтаў, што надзвычай актыўна працавалі на пераломе стагоддзяў. Якраз у апошнія дзесяцігоддзі замоўкла ліра вядучых беларускіх паэтаў, многія значна знізілі свой творчы патэнцыял або замаўчалі зусім, а В. Шніп праявіў выключную актыўнасць, выдаўшы ў даволі складаны час значную колькасць паэтычных зборнікаў. Менавіта ў гэты перыяд, калі ў грамадстве адбываюцца кардынальныя, анталагічныя змены ў свядомасці насельніцтва, у самом мастацтве ўключна з літаратурай, у ідэйна-эстэтычных арыентацыях як грамадзян, так і саміх мастакоў слова, ён жыве ў зусім іншай краіне, а не там, дзе пачынаў сваю творчасць. Ужо толькі з гэтага пункту гледжання ягоная творчасць выклікае ад-

паведную цікавасць, бо адлюстроўвае выключныя змены ў грамадстве. А калі дапоўніць, што за гэты час аўтар сам прайшоў выключна складаную эвалюцыю ад традыцыйнай вясковай лірыкі, у нечым падобнай на звыклую беларускую паэзію ўсяго мінулага стагоддзя, да паэзіі філасофскага складу, паэзіі слова публіцыстычнага, трыбуннага, песеннага, стаў са звычайнага наіўнага рэфлексуючага па звычайных прадказальных падзеях юнака назіральным вопытным мужчынам, якому да ўсяго справа ў жыцці ці літаратуры, дзе хочацца сказаць сваё важкае слова.

За гэты час ўбачылі свет зборнікі паэзіі «Гронка святла», «Пошук радасці», «Горад-утопія», «Шляхам ветру», «Чырвоны ліхтар», «Беларускае мора», «Воўчы вецер». Хаця зборнікамі ў класічным разуменні можна назваць толькі першыя, юнацкія выданні паэта, бо наступныя ўяўляюцца толькі кнігамі, кожная з якіх пабудавана ў поўнай адпаведнасці з аўтарскай задумай, падпарадкавана агульнай аўтарскай канцэпцыі: кожны наступны раздзел дапаўняе папярэдні, працуючы разам на адзіную ідэю.

Першыя зборнікі В. Шніпа надзвычай традыцыйныя для беларускай паэзіі. Падчас нават празмерна традыцыйныя як для 80-х гадоў канца мінулага стагоддзя, бо якраз «вершы пра будаўнікоў і пра родную вёску Пугачы, пра надзённы клопат сучасніка і пра маці склалі першы зборнік здольнага паэта» (так сказана ў прадмове да «Гронкі святла», па-руску чамусьці перакладзена «Солнечная гроздь»). Хаця трэба адзначыць неблагое паэтычнае майстэрства маладога аўтара, які, услед за сваімі шматлікімі папярэднікамі, хоча здзівіць чытача цікавымі асацыяцыямі і метафарызацыяй свету — «рунёвае сонца», «вясёлых думак ласяня», «маланак светлыя галіны», «і сонца на рагах Падыме лось з кустоў», «пасадзіў ля гаю куст агню», «якуцкія вавёркі коцяць сонца ў Беларусь».

Калі ў згаданых зборніках вершы друкаваліся ў адвольным парадку, то кожны з наступных вылучаецца прадуманасцю і арганізацыяй канкрэтных раздзелаў, што раскрываюць адпаведны аспект адзінай канцэпцыі. Так, зборнік «Шляхам ветру» (1990) складаецца з чатырох раздзелаў, якія не толькі ўражваюць метафарычнасцю сваіх загалоўкаў («Сівы вецер», «Вецер ісціны», «Вецер камяніц», «Задумны вецер»), але тым самым пазначаюць сутнасць таго няўлоўнага паняцця, што называе сабой не пэўную атмасферную з’яву, а нешта невымерна большае — «И возвращается ветер на круги своя». Менавіта таму як працяг агульнай задумы і пошукаў сэнсу быцця будзе ўспрымацца «Воўчы вецер» (які выйшаў сумесна з «Рыцарскімі хронікамі» Л. Рублеўскай у 2001 годзе і ў які ўвайшлі вершы, напісаныя ў апошнія гады XX стагоддзя). Вецер мае дзесяткі, сотні самых незвычайных эпітэтаў у беларускай паэзіі. Аднак падобнага ўспрыняцця яшчэ не было. Менавіта гэты скразны вобраз нечага існага, адчувальнага, але няўлоўнага,

неспазнальнага і дапамагае аўтару па-свойму ўбачыць вельмі многія звыклыя рэчы і перадаць адчуванне ўспрыняцця гэтага вечнага і ў той жа час зменнага свету і жыцця.

Праўда, раздзелы апошняй па часе кнігі «Беларускае мора» аўтар называць не будзе, а проста паставіць лічбы 1, 2, 3, бо «асноўны змест новай кнігі складаюць балады гістарычнага плана, санеты пра каханне і верлібры, якія з цікавасцю чытаюцца і запамінаюцца» (так у анатацыі).

Яшчэ больш згарманізаванай уяўляецца будова кнігі «На рэштках храма», раздзелы якой («Да Бога мая адлятала душа...», «Пакуль гарыць свечка», «Белы свет, дзе нам канаць», «Па дарозе бясконцай, як вечнасць зямная») дасканала адлюстроўваюць светабачанне, светаўспрыманне і светаадлюстраванне паэта.

Што ж новага ўнёс В. Шніп у беларускую літаратуру?

Фальклорны пачатак у паэзіі Віктара Шніпа, як і ў дзейнасці практычна ўсіх беларускіх паэтаў канца XIX стагоддзя, выразна адчувальны на працягу ўсёй яго творчасці. Праўда, зведаў даволі сур'ёзную эвалюцыю. У першых зборніках паэта ён не вельмі кідкі, яскравы, а болей прыхаваны, апасродкаваны, праяўляецца перш за ўсё ў паэтыцы, структуры паэтычнага радка, з-за сваёй арганічнасці не вельмі лёгка паддаецца класіфікацыі і вывучэнню. У наступных гэта ўжо становіцца выразна заўважным, а арыентацыя на адпаведныя пласты нацыянальнага менталітэту, нацыянальнай свядомасці становіцца вызначальнай адметнасцю многіх твораў.

Перш за ўсё гэта тычыцца народнай міфалогіі і фантастыкі. Бадай ніхто з сучасных паэтаў так арганічна не ўспрыняў, засвоіў і ўвасобіў гэты складанейшы, анталагічны пласт светаразумення і светаўспрымання нацыі. У нечым Віктар Шніп як бы працягвае мастацкі эксперымент, пачатак якому быў пакладзены слынным Я. Баршчэўскім у XIX стагоддзі, а затым значна ўзмоцнены творчымі пошукамі Я. Купалы і М. Багдановіча пачатку XX стагоддзя.

Свядомую арыентацыю на найбольш старажытныя і архаічныя пласты фальклору падкрэслівае і з'яўленне аўтарскіх жанравых вызначэнняў — казка, паданне — ці персанажаў народнай міфалогіі і дэманалогіі — цмок, ваўкалак, д'ябал, начніцы. Іх колькасць і мастацкая значнасць настолькі вялікая, што, па сутнасці, міфалагічныя персанажы ствараюць адпаведны антураж, чым выклікаецца адпаведная настраёвасць і атмасфера не толькі паасобных твораў, але і зборнікаў у цэлым.

Нешта падобнае было ў «Згуках Бацькаўшчыны» М. Кніжніка, які ў далечыні ад Радзімы стварае ідэальны вобраз *краіны-браначкі*, дзе пануюць у сваіх адпаведных сферах лесавікі, вадзянікі і русалкі, шнуруюць ваўкалакі, валадарыць Змяіны Цар. Веліччу і захапленнем, гэтай магут-

насцю вее ад падобнага ўспрыняцця роднага краю, што нарадзіла такую паэтычную і магутную сілу, якая, нягледзячы на сваю даволі рэдкую жорсткасць і помслівасць, у цэлым застаецца пазітыўна светлай.

Міфалагічныя постаці ў паэтычным свеце В. Шніпа выконваюць зусім іншую ролю, бо і сам свет паэта выразна адметны — ён выключна старажытны, змрочны, пачварны. Ён кантрастуе з космасам М. Багдановіча і становіцца значна бліжэйшым да свету Купалы — і зусім не на аснове падабенства вобразаў (апошнія выключна адметныя), але паводле выконваемай функцыі. Атмасфера большасці апошніх зборнікаў В. Шніпа жорсткая, змрочная. Не выпадкова адзін з раздзелаў зборніка «На рэштках храма» так і называецца — «Белы свет, дзе нам канаць». Нячысцікі ў самай рознай іпастасі авалодалі ўсім. Чэрці сядзяць за сталом у хаце, нячысты — на покуці, яго гоняць чапялой, а ён імкнецца сесці на карак.

Менавіта тут адбываецца спальванне ведзьмака, тут у чарговы раз шукаюць Нячыстага, што сурочыў край, нават сарокі скачуць як чэрці («Ціхае мястэчка»). Нават вецер праклінае свой бяздомны лёс, бо вылазяць з-пад пнёў вужакі, злятаюцца і ведзьмы, і вароны, «буяе жуда сакавітай, маўклівай, як вечнасць, травой».

Пад рогат д’яблаў
У атрутным тумане курганне,
Чорны прывід на чорным кані
Скача гулка насустрач світанню,
Скача ў смерці сляпыя агні.

У свой час Я. Баршчэўскі, імкнучыся стварыць адпаведны настрой, паказваў д’яблаў, што прымалі самыя разнастайныя аблічы («волаты ў дзіўных і старажытных абліччах», жахлівыя монстры, крылатыя гадзюкі і цмокі, цэлае д’яблавае кубло, страшыдлы з сабачымі галавамі і казлінымі нагамі, якія прымушаюць чалавека траціць чалавечае ў сваёй душы і тым самым забываюць дарогу да Храма). «Там, на пагорку, сярод бярэзін, стаяў мураваны касцёлік, — а цяпер ад дрэў тых толькі пянькі тырчаць з зямлі, касцёл у руінах, без дзвярэй і даху». У творчасці Я. Баршчэўскага Плачка рыдае «на парозе забытае вамі святыні». У В. Шніпа на руінах разбуранага замка з’яўляецца загадкавая постаць:

Начамі на замчышчы плача князёўна,
І слёзы князёўны тугой напаўняюць прастор.
Ды плачу не чуе ніхто ўсё роўна...

Вобраз замка набывае статус мадэлі свету, адлюстроўваючы ўніверсальныя кардынальныя асновапалажэнні і адначасова асабістае сакральнае ўспрыняцце.

Здаўна лічыцца, што адметнасцю беларускага менталітэту з'яўляецца арганічнае спалучэнне, узаемаўплыў і ўзаемадапаўненне язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў, пра што вельмі маляўніча і доказна, аргументавана сведчыць і В. Шніп. Так, у «Двух вершах» ён сцвярджае: «Я помню бабуліны казкі», якая навучыла яго, маленькага, размаўляць з вадой, дрэвамі, птушкамі, верыць у добры агонь, не баяцца ні жыцця, ні смерці, паміж якімі няма непераадольнай мяжы (так, сцэна пахавання роднага чалавека напоўнена выразным індуісцкім успрыманнем: «і не страшна памерці, і не страшна жыць, глядзім на той свет, у які адплывае бабуля, а мы стаім на беразе».

Разам з тым казкі, узноўленыя і пераствораныя паэтам Віктарам Шніпам, выразна адрозныя ад тых, што, як мы можам здагадвацца, чуў маленькі Віця. Так, у «Казцы пра волата» ён у пэўнай адпаведнасці з традыцыяй сцвярджае, што гэтая зямля не святая, бо на ёй цмокі страшныя жывуць. У поўнай адпаведнасці з законамі жанру намаляваны герой, зразумела, багатыр, які збіраецца знішчыць пачвараў, што п'юць людскую кроў. Аднак далейшае развіццё сюжэта набывае адметную інтэрпрэтацыю — намаганні волата не прынеслі плёну — ворагі не знішчаны, не здабыў ён ні дзяржавы, ні прынцэсы, ні кароны, адно толькі (выразны празнізм!) боты растаптаў. Але разам з тым ён, вярнуўшыся жывым дадому, ізноў выпраўляецца на пошукі слядоў страшэнных пачвар. Зло — невынішчальнае, а барацьба з ім — перманентная, якая і будзе пастаянна патрабаваць новых герояў, для якіх сэнсам жыцця і застаецца не перамога з адпаведным трыумфам і здабычай, а сам працэс змагання.

Па-свойму інтэрпрэтуе аўтар «Казку пра іголку», якая вырастае па аналогіі з народнымі ўяўленнямі пра торбу, што коціцца з вялікага горба (ёсць у яго і аднайменны верш «Торба», што развівае гэты матыў), ці цяжар, што ляжыць у чалавека на душы. У выніку ўтвараецца сінкрэтычны вобраз каменя, што падае з вялікай гары ў бездань. Падзенне каменя, суправаджаемае пылам да аблачын, жудасным выццём звяроў, як і ягоны нечаканы ўзлёт да зораў, а затым палёт з Богам на хвары ў нязведаны свет, нарэшце, факты мінулага («камень жа гэты не просты зусім, з ведзьмай на ім цалаваўся вядзьмак»), сведчыць пра тое, што звыклы бег рэчаў можа парушыць толькі ўнікальная асоба, якая ўсведамляе і прымае сваю выключнасць і наканаванасць. У дадзеным выпадку гэта асілак-смяльчак, што даў пачатак шматстайнага і шматвобразнага руху каменя, спіхнуўшы яго з гары, разбурыў ягоную першапачатковую сутнасць (слуга, рэч нячыстай сілы), прымусіўшы тым самым змяніць і сутнасць навакольных рэчаў, бо раптам становіцца весела адзінокім, якія раней зведалі жудасць у палоне самоты.

У народнай міфалогіі, у спадчыне Я. Баршчэўскага і М. Багдановіча існуе ўснёсла-паэтычны вобраз змея, вужа, які ўспрымаецца магутнай, неўтаймавальнай сілай, што выклікае адначасова і захапленне, і жах перад неспазнаным непераадольным стыхійным пачаткам прыроды, што куды мацней за ўяўную дужасць чалавека. Вуж, якому пакланяліся ў XIX стагоддзі, заўсёды паэтызуецца ў беларусаў, асабліва Вужыны Цар. Згадаем героя прозы Я. Баршчэўскага, які сустрэў дзіўны караван: «Яны, сыкаючы, саступалі з ягонае дарогі... Страчае Сямён такога велізарнага вужа, якога ніколі не бачыў. Той смела паўзе, а на ягонай галаве зіхаціць золата. Сямён раскінуў белую хустку перад ім і ўкленчыў. Вуж упусціў з галавы карону. З радасцю разглядаў Сямён залаты скарб, падобны на два бліскучыя лісцікі, што канцамі зрасліся між сабою».

У А. Багдановіча свой Змяіны Цар: «*Онъ по величенѣ больше всѣхъ ихъ, чешуя его отливаетъ серебромъ и золотомъ, на головѣ его корона из золотых рожковъ*».

Паэт канца XX стагоддзя Віктар Шніп выразна палемізуе з класікамі і нават адмаўляе традыцыйнае ўспрыняцце спрадвечнага беларуса, кардынальна мяняючы рэалізацыю міфа. Так, у вершы «Залатая карона змяі» галоўны атрыбут царскай улады ўжо не на галаве велічнай і страшэннай істоты, а «як сонца ў мёртвых пустынь прамяніць з чорнае канавы», дзе цячэ кроў-вада. Вецер коціць карону залатую па белым свеце, яна нясецца па краі нібы гром. Але гэтага ніхто не чуе, ніхто не здзіўлены збегам абставін — мы «засядаем, Змяю, галодныя, жаром». Падобнага развіцця падзей, прачытання класічнага міфа, эвалюцыі сюжэта было цяжкавата чакаць нават ад аўтара з такім парадаксальным мысленнем, якім і ўяўляецца В. Шніп. Так, ягоным антыподам велічнаму вобразу становіцца «воран з залатой каронай, якой не меў ніводзін цар». Яўнае і апасродкаванае супрацьпастаўленне птушкі і паўзуна зусім не выпадковае. Сімпатыі чалавека да першай, як і адкрытая агіда да другога, знаходзяцца на ўзроўні інстынктыўнага, падсвядомага ўспрыняцця. У паэзіі, мастацтве ўсё наадварот. В. Шніп паказвае, як і ў фальклорным успрыманні, свайго ворана яскравым прадстаўніком смерці, змрочнага, рэакцыйнага, пачварнага. Таму ён траціць атрыбуты птушынага класу, атраду, бо ўжо зусім не лятае, а толькі гучней за ўсіх гарланіць «Кар». Вобраз значна ўзмацняе і адцяняе, як сапраўднага караля світа, фон — лес, які таксама ўспрымаецца мёртвым (як у іншай замалёўцы-эскізе):

Лес памёр. Неўзабаве за ім перасохне
Крыніца,
І царыца Вужака ўцячэ ад бядоты ліхой.
Спее ў хмары чарнюткай над Лесам сухім бліскавіца,
А ў Айчыне няма Чалавека з жывою вадой.

Толькі сваркі птушачак за крошкі падкрэсліваюць мізэрнасць жыццёвых памкненняў і страсцей, калі адбываецца анталагічная трагедыя быцця. Вось чаму ніколі не ўсклікне і воран «Never more», як у Э. По.

Выразна па-свойму інтэрпрэтуе Віктар Шніп і вобраз сабакі (аднайменны верш), які здыхае (так у творы), але не паўзе да Хаты, дзе ягоныя сытыя браты абжыраюцца на святы крывёю. І хаця ён яшчэ раз-пораз згадвае поўнае карыта, але цалкам разумее, што быў у мінулым жыцці рабом, сабакам, сытасць якога абумоўлена ланцугом. А адзінае багацце ў свеце — гэта воля, нават смяротная. У гэтым плане Сабака (а менавіта так яго пачынаеш успрымаць), насуперак звыклай традыцыі (згадаем хоць бы Альгерда Абуховіча), вышэй за Ваўкалаку (аднайменны верш), які хоць і з'яўляецца нашчадкам спрадвечнага героя беларускіх фантастычных уяўленняў, але губляе сваю асноваўтваральную якасць уласнай сутнасці — волю, бо аддае яе за ўяўную любоў да прыгожай, аж страшна, Панны. У працэсе гэтай пагоні ён, як і сябры сабакі з папярэдняга твора, у пагоні за сучкай (так у тэксце!) траціць усе сілы і ўжо не можа ні плакаць, ні выць, ні скавытаць. Вось чаму сапраўдным героем успрымаецца ўжо рэальны вольны воўк айчынных лясоў («Воўк»), які, прадчуваючы гібель, вые як шалёны. Ён не баіцца смерці, бо апошняя любіць яго:

І вось апошні міг жыцця,
Апошні ўздых, як развітанне...
Яшчэ сабакі ўслед ляцяць,
Яшчэ нясецца паляванне.

Увогуле, воўк — адзін з улюбёных персанажаў шніпаўскай фантастыкі. Звер прыходзіць да цела замеценага снегам маладога і наіўнага інсургента («...Песні слухаю, і піва п'ю»); з няшчаснай дуэлі адзінокі паэт вяртаецца «нібы воўк, што ўцякаў ад ваўкоў» («...У зіме адзінокія мы»); сябрам-аднадумцам успрымаецца ён герою, што аказаўся вінаватым у гібелі друга:

Воўк ля агню пасівелы сядзіць,
Быццам бы ідал, на поле глядзіць.
Воўк адзінокі сем дзён не засне,
Будзе маўчаць у чаканні мяне.
Толькі сп'янелы сусед
Пойдзе праз поле адзін да ваўка,
Не задрыжыць у суседа рука...
Воўк перад смерцю, як д'ябал, завые,
Успыхнуць у прыску вуглі залатыя...

Наогул, арыгінальны паэт Віктар Шніп будзе зусім па-свойму інтэрпрэтаваць многія звыклыя фальклорныя сюжэты. Так, зачараваная царэўна не ведае, нават не здагадваецца пра сваю карону, бо няма на свеце каралевіча, які выстраліць з лука, а адзін мажлівы мужчына паціху співаецца

(«Жаба»). Нерэалізаванасць аднаго састаўнога элемента класічнага сюжэта міфа прыводзіць да распаду ўсяго фантастычнага ўяўлення.

З 13-й кватэры выганяюць маладога сучаснага дамавіка («Дом»), які піў каву, слухаў жалезны рок будаўнікоў метро, чытаў беларускія кніжкі і спяваў песні продкаў. Відаць, якраз гэтае непадабенства да класічнага першаўзору і прыводзіць да падобнае нязвыклае рэалізацыі.

На пачатку мінулага стагоддзя Я. Купала, адштурхоўваючыся ад міфа аб заклятым вясельным поездзе, які не можа дастацца дадому, стварыў абагулены вобраз народа, які вымушаны вандраваць па свеце, не маючы мажлівасці ўзбіцца на цвёрды шлях. Віктар Шніп сцвярджае, што і ў канцы стагоддзя дарога дадому надзвычай цяжкая, бо на роднай сцежцы — «рэчкі віравалі — зрывалі дрэвы, камяні. Маланкі падалі на хвалі. І патухалі ўглыбіні». Па чорнай дарозе праз чорную ноч, з самотай замест ранейшай радасці вяртаецца дахаты лірычны герой паэта, але на Радзіме яго ўжо ніхто не чакае, бо ў хаце даўно жывуць чужынцы. Толькі рабіна, што некалі ён пасадзіў, ласкава ўсміхнулася роднаму чалавеку. Ян Баршчэўскі згадваў пра волатаў, што ўставалі з магіл, каб адпомсціць неразумным нашчадкам. З-пад зямлі выходзілі героі Я. Купалы, Я. Коласа, якія часцей за ўсё вярталіся назад, бо не маглі змірыцца з сучаснымі норавамі. Пасля страшнага ўдару перуна (верш «Калгаснага каня скрадзе цыган») у курган з апошняга выходзіць князь, што кліча сваіх вояў. Але ніхто болей не выйдзе з-пад зямлі, як і не пусцяць князя ў былую царкву, дзе цяпер размешчаны склад. Трагедыя нацыі, гнеўна ўвасобленая класікамі-прарокамі, ва ўспрыняцці паэта-сучасніка значна зніжае свой болевы парог, чаму спрые добра распрацаваная, але схаваная, іронія — звыклая схованка беларускага інтэлігента.

Ягоны герой перастаў пытацца — «усе пытанні страцілі значэнне», хаця

Шчэ ёсць Беларусы, што верацць у Волю,
Іх веру нікому, нічым не забіць...
А Ён памірае — такая ўжо доля,
Анёл па душу з Беларусі ляціць.

Анёлы, як антыпод змрочнай хеўры нячысцікаў, даволі часта будуць з'яўляцца ў паэтычным свеце В. Шніпа. Але ў адрозненне ад гераіні балады А. Міцкевіча «Свіцязянка», якая бачыла ў сіняве заступніка, палёт анёла над сучаснікамі амаль ніхто не заўважыў. Яны з'яўляюцца як бліскавіца, як недасягальная мара, якую нельга практычна ўбачыць, а тым болей затрымаць. Усё ў канцы стагоддзя мізарнее, у тым ліку і пракрокі (аднайменны верш), якія зусім не падобны на купалаўскіх па моцы характару, тэмпераменту, пастаўленай мэце. Адзінае, што іх аб'ядноўвае, гэта абсалютнае раўнадушша тых, да каго яны звяртаюцца.

З народным светаўспрыняццем В. Шніпа звязвае і выразна анімістычнае ўспрыняцце свету. Мы ўжо згадвалі рабіну, якая плача над героем. Нават валуны тут спяваюць, не толькі сама зямля («Валуны»). В. Шніп паказвае, што ноччу па горадзе гуляюць дрэвы, але пра гэта ведаюць толькі паэты. Услед за С. Пшыбышэўскім беларускі паэт сцвярджае, што «пейзаж — гэта стан душы». Паэт інтуітыўна адчувае сувязь паміж душой усёй прыроды і сваёй уласнай душой, за выпадковасцю з'яў бачыць нейкі таямнічы свет, за межамі часу — бязмежжа вечнасці, з якой выйшаў ён сам. Мастак малюе свет такім, якім ён не бывае, але такім, якім бачыць яго ў хвіліны роспачы. Таму зразумела, чаму ягоным улюбёным жанрам сталася балада.

Віктар Шніп найбольш хваравіта прадчуў і максімальна адэкватна ўвасобіў яўна схаванае прадчуванне неабходнасці кардынальных зменаў структураўтваральных асноў жанра, стан служэння якому даволі значны, а паслужны спіс — уражлівы. Пачынаў ён выразна пад уплывам У. Караткевіча. Згадаем ягоны «Баладны маналог вольнага беларуса» (1990), які складаўся з пяці «балад-прамоў»:

Я на касцях сваіх трымаў хлеў,
Дзе парсюкі капытамі ўладараць.
Наш белы Храм амаль увесь счарнеў
І кружыцца над ім воранаў хмара...
Я вольным быў на вольнае зямлі
І гаварыў на роднай мове з Богам.
У белы Храм дарогі ўсё вялі,
У хлеў смярдзючы вашая дарога.

Адкрытая публіцыстычнасць, парадаксальнасць сітуацыі, кардынальнае супрацьпастаўленне непрымірымых светапоглядных пазіцый сведчаць аб заўважным уплыве філасофскай балады апошняга рамантыка XX стагоддзя. Яе інтанацыя нават прадвызначана танальнасці фінальнай часткі: «І толькі воля выратуе Вас, і толькі варта паміраць за волю». Неабходна адзначыць, што класічныя традыцыі В. Шніп засвоіў вельмі добра, акадэмічная школа, як сказалі б мастакі, у яго на ўзроўні. Так, зачын «Балады вандроўнікаў», вобразы яе галоўных гераінь маюць свае выразныя паралелі не толькі ў славянскай, але і еўрапейскай паэзіі. Беларускі паэт па-майстэрску ўвасабляе добра бачаную ўяўленнем класічную сітуацыю з дапамогаю кантрастаў, што характэрна для жанра і надзвычайных, уласцівых хутчэй паэтыцы казкі, параўнанняў.

Ва ўсёй сваёй супярэчлівай з'еднасці неспалучальнага паўстае рэальны і віртуальны свет у «Баладзе храма». Маналог паэта выразна адцяняецца алегарычнымі вобразамі: змяя ў залатой кароне на руінах святыні і трон Хама на пустых бутэльках, бо ўсё зменліва і непрадказальна там, дзе пануе нячыстая сіла і рушацца законы быцця («Балада пра сляпога, які ўсё

бачыў»), дзе народ не можа адрозніць Бога ад Шатана, і дэнтыфаваць Божы голас, людскі плач, д'ябальскі смех («Балада растаптанага ценю»), і чалавеку наканавана смерць за праўду, мову, за волю душы. Ён ужо і не ўспрымае знакаў і знаменняў, што пасылаюць яму продкі, якія некалі жылі на гэтай зямлі («Туманным і даждлівым ранкам»), бо нешта выключна чалавечае згубілі людзі ў гэтай сваёй двухаблічнасці і ваяўшчай абыякавасці да ўсяго, нават уласнага жыцця. Падобнае светаўспрыманне ўласціва не толькі В. Шніпу. У беларускай баладыстыцы 80—90-х гадоў нават «з'яўляюцца прыступы жахаў перад тым, што завецца маім жыццём». Герой «Балады пераўтварэння» А. Мінкіна баіцца гэтага свету, дзе не маюць ніякай вагі аўтамабілі, а кветка электрадугі не слепіць вочы і не паліць далоні. У свой час І. Драч паведаў свету пра Кузьму, якому Бог падараваў крылы. На гэтай зямлі ўжо не будуць здзяйсняцца класічныя балады, бо ў чарапах былых велічных замкаў селяцца кажаны і начніцы, а ў катакомбах — лёхах чэрава — нясе службу вурдалак Грабар Конша, валадар царства мёртвых («Мірскі замак» А. Мінкіна). У гэтым хворым свеце нядужае і сама балада («Больная баллада» А. Вознесенского), што асабліва ярка і адэкватна, падкрэсліваем яшчэ раз, адчуў В. Шніп і па-майстэрску ўвасобіў гэтую «Хваробу» ў творчай практыцы, як гэта ў свой час і ў сваіх літаратурах зрабілі Ф. Віён, Б. Лесьман, У. Высоцкі. Зусім у розныя эпохі і з зусім розным поспехам, але кожны з іх падмяніў традыцыйную баладу, здолеўшы зрабіць немажлівае — наліць старое віно ў новыя мяхі, тым самым знаходзячы новыя фармальныя структуры, напоўненыя класічнымі традыцыямі ў спалучэнні з уплывамі дня бягучага.

Храналагічнае творчае станаўленне вялікага француза Ф. Віёна супадае з вынаходніцтвам кнігадрукавання і захопа Канстанцінопаля туркамі. Балада В. Шніпа з'явілася ў часы павальнай кампутарызацыі і пачатковага этапу акупавання турэцкага Стамбула ці, што будзе болей дакладна, яго рэчавых рынкаў новымі беларусамі. Аднак, нягледзечы на амаль пяць стагоддзяў, што падзяляюць адметныя балады Ф. Віёна і антыбалады беларускага паэта, яны супаставімы падабенствам свайго светапогляду, маральнымі ацэнкамі канкрэтных з'яў, а таксама той роллю, якую адыгралі ці адыграюць у эвалюцыі жанра ў нацыянальных літаратурах. Мажліва, яны сведчаць і аб тым, што не так ужо і адрозніваецца натура чалавека XV і XX стагоддзяў, тым болей існуючых ці жывучых (як каму падабаецца) ў больш-менш падобных умовах. Падабенства праблематыкі быцця абумоўлівае падабенства яе рэалізацыі, бо паэты тварылі ў эпоху пераменаў, у драматычныя часы, асвечаныя сполахам трагедыйнасці стагоддзяў, якія непасрэдна ўплывалі на канкрэтную асобу, што пакутуе ў гэтым свеце з-за немажлівасці ўласнай рэалізацыі — ні фізічнай, ні духоўнай. Усе яны

адзінокія ў гэтым свеце, якого не разумеюць і баяцца. Балады Ф. Віёна і В. Шніпа больш рэальныя, але не менш трагічныя. Французскі і беларускі паэты пазбягаюць іншасказанняў і алегорый. Нават бытавыя падрабязнасці, не толькі зусім не ўласцівыя класічным рамантычным узорам, але нават антагайстычныя высокаму стылю жанра, становяцца падчас вызначальнымі.

Каханне ў В. Шніпа, асабліва ў «Баладах нашага двара», зусім не баладнае ў традыцыйным разуменні слова, а жабрацкае — ніхто нікому не дае проста так. Хаця і тут поруч з Каханнем ходзіць Смерць, але зусім не ў горкаўскім разуменні антытэзы («Девушка и смерть»), а ў лесьмянаўска-шніпаўскім: хацеў купіць ласкі дзяўчыны, але не адважыўся. Купіў на ўсе грошы «чарніла» і загінуў («Балада нясмелага»). Ды і не магло быць па-іншаму ў гэтым свеце, дзе «Цёмныя людзі на вуліцах цёмных, Быццам нашчадкі сабакаў бяздомных, Ноччу блукаюць, шукаюць святло, Быццам калісці святло тут было». Невыпадкова і балада са звычайнага для таго часу незацейлівага трылера аб няшчасным каханні і здрадзе (згадаем мяшчанскія рамансы) перарастае ў маніфест, становіцца ўвасабленнем алагізму, абсалютнага неспазнання ўсяго, што адбываецца ў свеце і самім чалавеку з яго схаванымі, але такімі магутнымі і супярэчлівымі жарсцямі. Бо як па-іншаму спасцігнуць вобразнасць у стылі барока, загадкавую сімволіку, метафарычнасць міфа.

Арбіты старога і новага свету балады цяпер ужо мала дзе перасякаюцца, прычым не знешняй сферай, што тычыцца спецыфікі сімволікі, фантастыкі, міфалагічнай вобразнасці, а менавіта ўнутранай сутнасцю, якая мае самыя непасрэдныя адносіны да галоўнага — канцэпцыі чалавека. У перыяд, калі разбураюцца традыцыйныя прынцыпы, аснова грамадства і мастацтва, калі практычна заўсёды перамагае грубая сіла, у свядомасці пераважае нігілізм, расчараванне ў сутнасці чалавека, жаданне схаваць у сваім «я», з'яўляецца патрэба растлумачыць усё грамадскае зло біялагічнымі, псіхалагічнымі прычынамі, знайсці вытокі ўсяго бруднага не ў грамадскім ладзе, а ў самім чалавеку.

Ніякай надзеі, ні адзінага пробліску свету не пакідае беларускі паэт сваім героям. Якія тут ілюзіі, калі дзяўчынка-падлетак вымушана прадаваць сябе старому (у яе ўяўленні гэта нават і соракагадовы — «Балада семнаццацігадовай»), калі жывой гніе ў камеры, на чорных нарах, пад вашытай куфайкай ужо былая дзяўчына, якая і сама забылася пра тое, якой яна была некалі («Балада падсуднай»), калі ты, «Як ліхтар чырвоны, каля гатэля ў чырвонай міні, сумная, стаіш», і ніхто ў свеце не ведае тваёй мары, ды і каму яна патрэбная.

У «Баладзе добрых перад тым, хто жыве пагана» ён сцвярджае, што ад смерці не ўцячэ ніхто, а ягоныя сентэнцыі аб чарапах, якія ў былым жыцці

належалі невядома каму, значна апярэджвае славуты гамлетаўскі маналог пра беднага Йорыка. Па-філасофску вырашае ён і дылему Саламона — жывы сабака лепшы, чым здохлы леў. Лірычны герой В. Шніпа не менш пранікнёна і абвострана ўсведамляе, што ў кожнага з жывых наперадзе прадвызначаны менавіта яму дзень, у якім цябе ўжо як бы і няма, які скончыцца, як вада ў калодзежы, патухне, як свечка перад іконамі, знікне, як сцежка дадому, дзе цябе ніхто ўжо не чакае («Самагубства»). Ф. Віён не верыць у загадзя прадвызначаную вялікую мэту чалавечага жыцця, у той жа час ён не вельмі баіцца і пасмяротнага пакарання за рэальныя зямныя грахі, у тым ліку і плоцевыя, яго болей палохае непазбежнасць, жах і бессэнсоўнасць небыцця. Баіцца падобнай наканаванасці і В. Шніп. Не выпадкова ягоная «Балада лёсу» завяршаецца зусім у стылі Ф. Віёна: «і нічога не зменіць нікому, як не легчы ў труну жывому». І далей: «Мы памерлі, і тут не былі»; «Мы як вароны ў гэтым сусвеце, шукаем нечага, крычым, і ўсё, як снег, і ўсё, як дым».

Сусвет, рэальна выдуманы, у Ф. Віёна і В. Шніпа рассыпаецца, рушыцца і нават пазбаўляецца, ачышчаецца ад рэалій-руін. Бруд — непазбежны спадарожнік кожнага развалу — неадольна запаўняе ўвесь сусвет, пазбегнуць яго можна толькі ў выпадку дэманстратыўнага адыходу ад усяго акаляючага, бо часы вежаў са слановай косці сплылі назаўсёды, хаця заняніць яе спрабуюць наіўна-рэальнымі ўяўленнямі аб ствараемым у свеце страчаных ілюзій Храме. Па сутнасці, замкнулася кола эвалюцыі балады. Яна пачыналася з матываў змагання з Богам Ленора Бюргера, кідала выклік Найвышэйшым сілам, бо не згаджалася з іх боскім прадвызначэннем. Новая гераіня новай паэзіі аддае перавагу не паслухмянаму згодніцтву з лёсам, доляй, фатумам, а барацьбе за сваё каханне і шчасце. Цяпер жа беларускі паэт прадвызначае далейшы лёс славянскай і еўрапейскай балады ў цэлым — вяртае яе да пошукаў страчанага сэнсу быцця, бо праслаўленне сілы духу чалавечага не прывяло ні да чаго добрага.

Дзеля гэтага В. Шніп ідзе на своеасаблівы творчы эксперымент. Ён, беларускі паэт, дзіця вёскі (што, аднак, ніколі не хаваў, а, наадварот, ганарыўся сваімі пугачамі), як і патомны гараджанін, карэнны парыжанін Ф. Віён, практычна пазбягае апісанняў прыроды. А ўся ж баладная еўрапейская традыцыя, асабліва пачынаючы з рамантычных тэндэнцый, і заснавана на шчодрым выкарыстанні сімваліка-алегарычных магчымасцей пейзажа, які становіцца не толькі месцам дзеяння маленькіх трагедый, своеасаблівым фонам, але і падчас поўнапраўнай дзеючай асобай. Апісанне стану прыроды заўсёды станавілася своеасаблівым камертонам мелодыкі разгортваемых падзей. Так, усе ведаюць украінскую народную песню «*Реве та стогне Дніпр широкій*», якая з'яўляецца інтрадукцыяй да славутай

балады Т. Шаўчэнкі «Причинна». Наўрад хто-небудзь са слухачоў, акрамя філолагаў, памятае далейшы змест твора, аднак кожны пасля падобнага ўступу зможа прадказаць танальнасць будучай трагедыі. Нават класічная «Шыпшына» Гётэ ўспрымаецца не як гісторыя гібелі кветкі, а трагедыя рэальнай дзяўчыны, што страціла сваю кветачку, г. зн. дзявоцкасць. У беларускай баладнай традыцыі, у выніку адпаведных тэндэнцый развіцця паэзіі ў цэлым, значнасць падобных апісанняў узрастае шматкроць. Аднак В. Шніп смела адмаўляе традыцыю, а таму своеасаблівым камертонам, фонам і ўдзельнікам усіх яго маленькіх трагедый становіцца шэры горад з ягонымі барамі, гатэлямі, турмамі, адкуль ужо ніколі не вырвацца на прастору. Каменныя джунглі замяняюць рэальныя кіплінгаўскія або лесьмянаўскія: «Жыццё кожную хвіліну ў нябыт знікае, як бруд, як лісце жоўтае ў вадзе». І цяпер ужо не адзінокая дзяўчына, разрытая магіла або птушка-воран узмацняе пачуцці адзіноты, пакінутасці, адвергнутасці, а рэальны шматгаловы натоўп, вакзалы, шэрыя аднастайныя гарадскія будынкі.

В. Шніп трапіў у складаную сітуацыю — у беларускай лірыцы практычна не існавала так званых жорсткіх або мяшчанскіх рамансаў, асабліва папулярных у Расіі на пачатку мінулага стагоддзя, або цэлага пласта блатной песні з яе выпрацаванай вобразнасцю, паэтыкай і светаўспрыманнем. Яму, па сутнасці, прыйшлося самому ствараць падобныя творы або рабіць выгляд, што ён развівае вядомыя матывы, што не магло не прывесці да пэўнай эклектыкі, не заўсёды апраўданаму эстэтычна (а падчас і маральна) сінкрэтызму. Згадаем, што некаторыя даследчыкі наогул называлі баладу трылерам. «Блатной» рамантыкай абумоўлена структура балады «Малады і прыгожы, нібы даляры», «Падарыў табе ён завушніцы» і, асабліва, у «Матроскай баладзе», дзе адвечныя сентэнцыі аб мурках-здрадніцах, якія здалі сваіх кавалераў-уркаганаў і цяпер радуюцца жыццю ва ўсіх яго праявах, саступаюць інтэнсіўнай дынаміцы аповеда аб гісторыі светлага кахання, што знішчана жорсткаю рукою. Атрыбутыку песняў добра падкрэсліваюць і традыцыйна шчодрыя апісанні чорнай сталі, кінжала, новенькага нагана, Сашкі-хулігана, уласны антураж і вобразнасць і, найперш, стылістыка: дынаміка, энергетыка дзеяння, лаканізм у выкладанні падзей прыкметна кантрастуе з лірызмам мяшчанскіх рамансаў. Нават лексіка і будова фразы, не гаворачы пра вобразнасць, не супастаўляльны. Гераіня В. Шніпа не атруціцца, не ўтопіцца, не заб'е яе недалёкі валацуга, і на беразе рэчкі не застанецца цела Олі.

Не было і «гітарнага» прачытання падобных тэкстаў (хаця «Балада беглага зэка» вельмі нагадвае «Охоту на волков» У. Высоцкага). На наш погляд, В. Шніп не імкнуўся да таго, каб ягоныя балады сталі песнямі.

Беларускі паэт надзвычай тонка адчувае музыку, ён добра ведае спецыфіку песні, не выпадкова на ягоныя словы напісана каля сарака песняў, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю. У яго іншая творчая задача — адмаўляючы, сцвярджаць, бо кожная літаратурная школа вычэрпвае сябе, а ўсялякі наватарскі прыём у мастацтве ператвараецца ў штамп. Адмаўляючыся ад звыклых шаблонаў і звыклых шляхоў развіцця, В. Шніп сваімі пошукамі падкрэслівае, што класічная балада будзе існаваць заўсёды.

Сведчанне таму — яго далейшыя балады, выкананыя ў класічным стылі. Класічная балада жыве нязменна апошнія тры стагоддзі, нягледзячы на выразныя спробы яе мадэрнізацыі, бо яе свет — наіўны, дзіцячы, а таму такі незвычайны і паэтычны — вельмі дарагі кожнаму сэрцу сваёй старажытнасцю, заглыбленасцю ў ахутаныя смугой стагоддзі, сваім цячэннем часу, успрыманнем і разуменнем жыцця і ўсяго, што ў ім адбываецца. Падобная схільнасць уласціва ўсім літаратурам, што «шукаюць там спрадвечныя, непераходныя выяўленні чалавечай сутнасці, бо ў кожным імгненні жыве вечнасць» (В. Каваленка), але найбольш яскрава праяўляецца ў паэзіі беларускай, што тлумачыцца як адметнасцю светапогляду беларусаў, выразнасцю міфалагічнага мыслення, верай у магчымасць пераўвасабленняў, адэкватнасць з'яў арганічнай і неарганічнай структур. Перліна сусветнай паэзіі — класічная балада — гэта чароўная краіна са сваімі ўласнымі законамі. Для яе характэрна сваё цячэнне часу, сваё разуменне свету і ўсяго, што ў ім адбываецца, бо баладны сусвет — захапляльнае месца. Ён усюды і нідзе, бо часцей за ўсё знаходзіцца ў чалавечых сэрцах.

Мы згадваем чароўныя замкі, што ўзвышаюцца над скаламі і пагоркамі, бурлівыя рэчкі, маленькія азёры, цёмныя лясы і ўспененыя марскія хвалі. У гэтых гушчарах жывуць лясныя каралі і іх звыродлівыя дочкі-красуні, лесуны і эльфы, тролі і начніцы; у заклятых замках блукаюць здані і прывіды; у азёрах і морах плёскаюцца русалкі, чакаюць сваіх ахвяраў марскія царэўны, крадзе прыгожых дзяўчат вадзянік; па сваю каханую прыходзіць мёртвы жаніх; без руля і ветразяў плыве ў блакіце лятучы карабель; над усім звіняць таямнічыя гукі эолавай арфы.

Атрыбутыку класічнага рамантычнага антуража ў паэзіі В. Шніпа добра падкрэсліваюць нават загалоўкі твораў — «Балада Куліка», «Балада здрадніка», «Балада пустэльніка», «Балада Крэўскага замка», «Балада дваіх», «Балада вампіра», «Пірацкая балада». Тут мы сустрэнем руіны замкаў, над якімі плачуць князёўны і каралеўны («Князёўна галасіла на сцяне»), аскетаў, што кінулі гэты свет з-за кахання да распуснай Панны, блазна, што закахаўся ў сваю князёўну, якую павінен быў весяліць, здрадніка, што марна шукае і кліча смерць, экіпаж судна, які, як лятучы галандзец і п'яны карабель А. Рэмбо, бязладна лётае па марскіх прасторах, бо даўно

згубіў мэту вандравання, тым болей, што ні маракоў, ні капітана даўно няма. Разам з тым В. Шніп не злоўжывае класічнымі баладнымі схемамі, што можа прывесці даператварэння жанру твораў у адарванае ад жыцця літаратурнае ўпрыгожанне. Ён ведае выключныя жанравыя мажлівасці балады. Яна — адзін з самых эмацыянальных жанраў. Аўтар як бы робіць дослед, у якім скурпулёзна, з дапамогай уласнага вопыту чытача, даасэнсоўвае, дастварае накінутую пункцірам карціну, што выклікае самыя разнастайныя асацыяцыі, пачуцці і ўяўленні. І ў той жа час балада — летапіс гісторыі. Прычым летапіс выключна своеасаблівы. У ім не будуць шырока паказаны батальныя сцэны развітання, смерці, а праз жыццё асобнага чалавека, зрэдку некалькіх, заблішчыць, як у маленькіх расінках, лёс народа, нацыі. Баладнай паэтыцы не ўласціва апісальнасць, таму яна выпрацоўвала адметнае ўменне адной дэталлю, тропам апеляваць да пачуццяў, асацыяцый чытача, выклікаць яго на сааўтарства. Адзін выраз канцэнтруе безліч жыццёвых назіранняў, раскрывае ўзаемаадносіны людзей адпаведнай эпохі. Лёс канкрэтнага чалавека паядноўваецца, атаясамліваецца з лёсам народа, што надае баладзе сапраўднае эпічнае гучанне. Садзейнічае апошняму і глыбокі аб'ектывізм твора: нягледзячы на тое, што ўсе падзеі і эмоцыі, выкліканыя імі, прапушчаны праз сэрцы герояў, тут не сустракае культу свайго «я». Хаця ў традыцыйнай баладзе ўсё сканцэнтравана каля асобы ці суб'екта, на першы план выходзіць думка народа. Менавіта так прачытваецца шэраг балад Віктара Шніпа, прысвечаных выбітным постацям нацыянальнай гісторыі розных стагоддзяў. Прычым постаццю становяцца не толькі канкрэтныя асобы, але і замкі (Мірскі, Крэўскі), рэчкі, карчма, царква, сімвалізуючы адзіную, непадзельную культурную прастору. Падобныя творы будуць раскіданы практычна па ўсіх зборніках В. Шніпа, але ў кнізе «Беларускае мора» яны складуць асобны раздзел. Беларускае мора паэт знайшоў у нябёсах, але яно прыкавана да зямлі вежамі Полаччыны («Полацкая балада») зялёным морам травы з пенай кветак («Балада Крэўскага замка»), разбуранымі мурамі («Балада Мірскага замка»), спрадвечным словам («Балада кнігі»), славутай мелодыяй («Балада паланеза Агінскага»), а найперш светлымі імёнамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Васіля Быкава, Цішкі Гартнага, Уладзіміра Караткевіча і інш. Пантэон надзвычай вялікі. З жыцця сваіх вялікіх папярэднікаў В. Шніп выбірае адну падзею, якая сталася вызначальнай у ягонай долі і прадвызначыла долю нацыі, народа.

Адметнае месца займаюць «Балада Яўгеніі Янішчыц» і «Балада Васіля Сахарчука». Пастаўленыя поруч, яны як бы сімвалізуюць перарваны палёт палескай ластаўкі і трагічны фінал яе земляка («цябе няма, як нас няма ў тым свеце»), што самі выбралі сваю долю, такую трагічную і страш-

ную. Шніп не асуджае іх суіцыд, не шукае прычыну і не спрабуе нешта растлумачыць, апраўдаць — мёртвым паэтам гэта не патрэбна. Галоўнае — засвоіць урок жыцця.

Новае слова ў нацыянальнай баладыстыцы — цыкл В. Шніпа «Балады году», надрукаваны ў «Нашай Ніве» (№ 29 ад 5 жніўня 2005 года). У чарговы раз паэт паказаў сябе разбуральнікам традыцый, да стварэння і ўмацавання якіх прыклаў нямала намаганняў. У цыкле ўсяго 12 балад. Аб'ём іх мінімальны — ад 10 да 18 радкоў (усяго, калі быць дакладным, 182 радкі). Сумарны аб'ём цыклу — сярэдняя балада пачатку XIX стагоддзя. Раней у беларускай паэзіі самай кароткай была балада Пімена Панчанкі «Герой» (нібы санет, 14 радкоў). Калі ж згадваць, напрыклад, творы заснавальніка жанру, Яна Чачота, то гэта прыкладны аб'ём ягонай інтрадукцыі, бо прыкладна столькі патрэбна было месца славутаму Ментару, каб пасля ўступных заўваг і гаворак перайсці да раскрыцця галоўнай тэмы. Аднак «*умчался век эпических поэм*», цяпер неабходна ўвасобіць мастакоўскую задачу ў гранічна малых межах. Другая адметнасць — гэта зварот да рамантычных традыцый і, па сутнасці, чарговая палеміка, на гэты раз са згаданым Віёнам. Калі ў папярэдніх баладах В. Шніп практычна адмаўляўся ад выкарыстання апісанняў прыроды, то цяпер апошняя становіцца не толькі фонам, як у творах XIX — пачатку XX стагоддзяў, а галоўнай дзеючай асобай. Хаця і тут будзе пэўная недакладнасць, бо па сутнасці, у цыкле балад няма дзеяння. Гэта яшчэ адзін парадокс, бо асновай балады як жанру як раз і з'яўляецца дзеянне, рух, «баллады скорость голая, романтики откос». Статычных балад не бывае, яны не могуць існаваць. В. Шніп гэта адчувае вельмі тонка, менавіта таму і аб'яднаў рознастылёвыя рэфлексіі з нагоды вандраванняў зямлі ў сузор'ях задыяка ў адзін цыкл, у якім кожная з састаўных частак загучала баладна, а разам стварыла адзіную баладу быцця чалавечага.

Класічная балада ў аснове сваёй трагічная, гэта трагедыя (няхай маленькая) паэзіі. У цыкле В. Шніпа на першы план выходзіць не рэальная трагедыя канкрэтнага чалавека (воіна, партызана, хлопчыка, маці), а абагуленая трагедыя чалавека ўвогуле, які ўслед за Саламонам пачынае разумець і ўсведамляць марнасць сваіх намаганняў і спрабуе ў сілу сваіх здольнасцей і магчымасцей вызначыць сутнасць і вартасць быцця ўвогуле.

Цыкл пачынаецца з «Балады студзеня» (у адпаведнасці з сучасным календаром) і завяршаецца «Баладай снежня» (канцом года). Замыкаецца чарговы круг, чарговае кола, па якім людзі лічаць свае гады, адпушчаныя ім, у цэнтры якога знаходзяцца Каляды (сімвал нараджэння) і Дзяды (сімвал сыходу): «Сёння Каляды. Ідзём да царквы. Хто памаліцца, а хто — памаўчаць, Хто нарадзіцца, а хто — паміраць».

Увогуле, атмасфера цыкла надзвычай сумная і змрочная. Бадай што толькі ў «Баладзе чэрвеня» святлее ад залатой пчалы, што заляцела на густое цяпло летніх кветак. Аднак і гэты настрой хутка праходзіць, бо хутка і сам месяц, як дзень, праміне, адспявае, нібы пamрэ, салавей у гаі, нібы спелая вішня, адплыве за небакрай сонца, і будзеш ты свой свет спакойна абжываць. Змрочна ў гэтым свеце, тужліва, няміла. Погляд у паэта прыкмячае толькі тыя з'явы прыроды, што ўзмацняюць гэтую тугу, або нагадваюць пра немінучы закон прыроды: задумлівыя зоркі ў нябёсах не могуць ад марозу размаўляць паміж сабой; выюць вятры — маладыя ваўкі; лета адыходзіць назаўсёды, як жоўтая лістота; нясе пагібель усяму жывому паводка. Цяжка ў гэтым свеце ўсяму жывому, але асабліва чалавеку, у якога ўжо няма дома, засталася толькі ў памяці сцежка да бацькоўскага парога, дзе цябе ўжо ніхто не чакае; няма з кім шукаць папараць-кветку маладзенькай дзяўчыне. «*Ветер возвращается на круги своя*», ізноў усё замятае завіруха, у выцці якой чуецца лёт анёлаў і д'яблаў. Жыццё яшчэ і яшчэ раз абуджаецца, каб ізноў трапіць пад снег пад нястомным поглядам некага рагатага, што з зямлі не адводзіць задымленых воч. Рух думкі, нястомны і пакутлівы, надае неабходнае дзеянне цыклу.

Некаторыя публіцысты ў апошні час, спрабуючы растлумачыць пэўныя недахопы беларускага менталітэту, у тым ліку і славутую талерантнасць, называюць у ліку прычын і адсутнасць мора. Няма фосфару ў неабходнай колькасці, няма марской рамантыкі, адсюль рабская псіхалогія. Вось чаму так настойліва шукалася мора Герадота, Палескае мора, Нарач называлася морам. Свой уклад у гэтыя падсвядомыя пошукі ўносіць В. Шніп, які цэлы зборнік назваў «Беларускае мора». Раней, у «Шляхам ветру» ён сцвярджаў, што «Беларусь стаіць на Курганах». Айчына шмат страціла ў сваёй гісторыі, таму паказаць яе шлях пакутны можна толькі па кнігах, чытаных агнём. Прысыпаныя мёртвым пылам пліты не дазваляюць знайсці магілы славутых беларусаў, таленты якіх часцей за ўсё служылі суседзям. У нас адметная азбука Брайля, мы сваю гісторыю пішам курганамі. Вось чаму наша Беларусь стаіць на курганах, як Рым.

Знамянальна, што ў паэзіі В. Шніпа з'яўляецца ўпэўненасць у сябе, зямлі, Радзіме. Ранейшы вобраз Хама на троне ў храме ўжо практычна не згадваецца, толькі з'явіцца «Балада пра царкву і ваўка», і то царква хутчэй за ўсё віртуальная, бо пасля пэўных цудаў (вяртанне зроку сляпым) і злачынства (велізарнага ваўка — ваўчынага старэйшага — брат застрэльвае сусед) царква сплывае назад да Бога па рацэ, што пралілася з-пад аблокаў. Будуць у В. Шніпа яшчэ вершы змрочныя, як «Зноў за вокнамі ноч, як бяздонне», дзе глыбіня забытай ракі, у якой патанулі мы і будзем вылаўленыя чорнай сеткай, нагадвае жах балады паляка К. Ба-

чыньскага «Lowy», невады ў якой цягнуць з дна рачнога смерць. Але ўсё ў гэтым свеце, прыкрытым нябёсамі як лёдам, зведае самыя незвычайныя метамарфозы і адродзіцца да жыцця. Песімізм сусветны, планетарны саступае. Трэба жыць. І ў гэтым дапаможа музыка і каханне.

Амаль дзесяць гадоў таму, адказваючы на пытанні «Маладосці» (№ 1, 1996) пра вартасць эксперымента ў літаратуры, В. Шніп сцвярджаў, што эксперыментатарства са словам узнікла адначасова з зараджэннем апошняга. Там жа ён згадваў, як са сваімі маладымі калегамі У. Сцяпанам, М. Клімковічам, У. Сіўчыкавым, М. Шайбаком, збіраючыся на кватэры ў Глобуса, дзе адначасова чыталі традыцыйныя творы і імкнуліся асвойваць новыя, незвычайныя для нашай літаратуры паэтычныя формы. Гаворка ішла ў першую чаргу пра хоку, зборнік «Круглы год», якія яны і падрыхтавалі, а затым доўга чакалі, пакуль надрукуюць у «Мастацкай літаратуры», «бо ў БССР нават нязвыклая форма ўспрымалася як дысыдэнцтва». У згаданай падборцы ён надрукаваў 10 узораў жанру, якія ўспрымаюцца з цікавасцю перш за ўсё раскаванасцю асацыяцый. Аднак, хаця тут і адчуваецца пэўны «японскі» каларыт — белая вішня, жоўты ліст на зялёнай вадзе, палёт матылька і голуба — усё ж такі беларускі дух перамагае:

***

Свецяцца зоры.
Кароткая дарога
да роднай хаты.

***

Жанчыны рвуць лён.
Шэры жаўрук у небе
гаворыць з хмарай.

***

У хмаркі белай
просіць піць перапёлка.
Расце збажына.

Падчас можа закрасціся сумненне ў не вельмі высокай арганічнасці звароту беларускага паэта да рафінаванай формы, бо тут хутчэй дамінуе традыцыйнае для версіфікатара жаданне сцвердзіць сябе, даказаць усім і перш за ўсё сабе самому, што я здольны рэалізаваць свой велізарны патэнцыял у якіх заўгодна формах. Як бы там ні было, В. Шніп адстойвае сваё права на эксперымент як у галіне формы, так і зместу. Разам з тым ён лічыць, што паэт павінен нечага спачатку дасягнуць у традыцыйных жанрах і заявіць класічнымі творамі (г. зн. выкананымі ў звыклых для адпаведнай паэзіі формах) права на эксперымент. Кажуць, што ў ЗША

мастак перад тым, як займацца авангардызмам, павінен намаляваць карову. Калі выяву гэтай істоты адобрыць журы, то ў яго развязаны рукі для любых пошукаў.

Зварот да хоку ў паэзіі В. Шніпа цікавы яшчэ і тым, што ён пралівае святло на больш важны і важкі абсяг ягонай паэзіі. Так, у згаданым інтэрв'ю паэт згадваў: «За апошнія чатыры гады я напісаў каля 70 твораў, якія нечым падобныя да разанаўскіх вершаказаў, але гэта не вершаказы. Адзін мой знаёмы іх назваў «шніпаўкамі». Украінская даследчыца Н. Шэфтэлевіч лічыла, што хоку, напісаныя пэндзалем Басё, — гэта не лірыка прыроды ў еўрапейскім разуменні гэтага тэрміна, а «лірыка самой прыроды», якая пакідае паэту толькі ролю медыума, і інфармацыю яму пастаўляюць не духі, а цалкам рэальныя прадметы і з'явы прыроды. Гэтым, на наш погляд, і тлумачыцца лёгкасць пераходу В. Шніпа ад усходняй паэтычнай формы да нацыянальнай, у якой ён пачынае глядзець на свет у чарговы раз новымі вачыма (паэт можа яшчэ мяняцца, здзіўляцца, значыць, жывы ягоны талент, бо можа эвалюцыянаваць). Па сутнасці, В. Шніп уяўляецца першым чалавекам у гэтым сусвеце, ён Адам, што тлумачыць сутнасць усяго таго, што акаляе чалавека. Не настаўнік, як Л. Талстой у «Народных рассказах» ці К. Каганец або Я. Колас у чытанках для дзетак беларусаў, якія апавядаюць пра нашых птушак, падарожжа кроплі вады і г. д., а пасланнік, які адкрывае сусвет і з радасцю дзеліцца гэтым адкрыццём. Прычым пасланнік мае зямное паходжанне, беларускі менталітэт, які лічыць, што ўсё створана менавіта ў адпаведнасці з апошнім. У гэтым свеце супрацьпастаўлена неба, што палохае сваёй глыбінёй, бо там жыве Бог, да і само неба Бог, таму да яго імкнецца ўсё і ўсе, забыўшыся пра тых, хто даў ім жыццё, і зямля са сваёй *глінай, вадой, ценем, калодзежам, валуном, травой*, а паміж імі — *дрэва* і *чалавек* са сваім *парогам, ліхтаром, яблыкам, чоўнам, сякерай*. І нешта больш магутнае і таямнічае, чым *шкло*, падзяляе супрацьлеглыя і ўзаемадапаўняльныя пачаткі. В. Шніп сягае ў далёкія часы, калі сусвет дзяліўся на жывое і нежывое, што ясна адлюстравалася нават у славянскай прамове. Так, усё жывое падзялялася на мужчынскі і жаночы род, супрацьлеглае адносілася да ніякага роду. Аднак куды аднесці тое ж неба, раку, што бяжыць, сякеру, якая робіцца страшэннай у руках чалавека, падкову, што ўплывае на лёс чалавека, касу — усмешку Смерці. В. Шніп пакідае свет у ягоным разбэрсаным выглядзе, хай сам збірае сябе ў адпаведнасці з уласнай наканаванасцю. Ці не таму з гэтага часу ён стаў пісаць, паводле ўласных слоў, без знакаў прыпынку. Некалі ён ухвальна абазваўся аб эксперыменце, што ставіў у прозе таленавіты Барыс Пятровіч, і нават папракаў літаратуразнаўцаў, што не могуць ацаніць ягоных пошукаў. У нечым паэтычны

цыкл В. Шніпа пераклікаецца з цыклам ягонага сябра «Непатрэбныя рэчы», дзе гаворка ідзе пра пэўныя прадметы, што адыгрываюць значную ролю ў жыцці чалавека, а падчас і вызначальную, бо пачынаюць кіраваць у адпаведнасці з уласнымі запатрабаваннямі.

Зразумела, эстэтычная і ідэйная значнасць цыклаў выключна адрозная, але нас цікавіць вектар эвалюцыі эксперымента, які можа супадаць. Яшчэ раз падкрэслім, што ў В. Шніпа эксперымент не звязаны з постмадэрнізмам ці мадэрнам на горшы выпадак. Яму ў гэтым перашкаджае добра ўсвядомленае паходжанне і выхаванне на народных традыцыях: «Я не сучасны, бо — мараліст, Думаць прывык, а што скажа радня». А радня — гэта і бабуля, і бацькі, і суседзі, і дзеці.

У шэрагу пошукаў ці чарговых дэманстрацый версіфікатарскіх здольнасцяў паэта варта згадаць і ягоныя спробы знайсці на кожную літару алфавіта адпаведны асацыятыўны малюнак:

Ш шэпча пра шлях
яно шапаціць у шыпшыне
шукаючы шчасця
яно шалапутнае
але яно шануе шчырых
яно заўсёды там дзе шаша
ш шыпучае як шампанскае
якое п’юць шляхцічы

Такая своеасаблівая азбука для дарослых, што толькі ўваходзяць у сусвет паэтычных асацыяцый, або сталых чытачоў, што, як Пруст, згадваюць страчаны час.

Чарговы эксперымент В. Шніпа ў форме ўлюбёнага жанру — шэсць балад, аб’яднаных у адзіны цыкл «Балады радаводу» (ЛіМ, 3 сакавіка 2006). Паэт паспрабаваў узнавіць некаторыя найбольш яркія старонкі гісторыі ўласнага роду, узнавіць постаці, да якіх яшчэ сягае ягоная памяць і стварыць яскравыя аблічча — згадкі пра сваіх продкаў, якія пачынаюцца з «Балады Германа Шніпа» (1760—1830), рыцара з Прусіі, што застаецца назаўсёды на чужой зямлі, якая з моманту нараджэння сына («Балада Язэпа Шніпа» (1800—1875) становіцца для ўсіх Шніпаў радней, бо хто ўжо нарадзіўся тут, будзе тутэйшым. Яны жывуць звычайным жыццём («Балада Кандрата Шніпа» (1820—1916), у незвычайных умовах («Балада Яські Шніпа» (1866—1914); «Балада Язэпа Шніпа» (1911—1982), пралівaючы сваю кроў за новую і родную Айчыну. Спыняецца летапіс на «Баладзе Анатоля Шніпа» (1931), бацькі паэта, але верыцца, што род Шніпаў дасць яшчэ слаўных прадстаўнікоў у шэрагу беларусаў. В. Шніп надзвычай узмацняе лірычны пачатак твораў, спалучаючы асабістае

з агульнай доляй народа. Падобная інтымізацыя выключна аб'ектыўнага жанру, што ў цэлым пярэчыць канонам, дапамагае значна паглыбіць рэалізацыю цікавай мастацкай задачы.

Сведчаннем таму і новая кніга — салідны, дыхтоўны фаліянт «Балада камянёў: паэзія і проза» (Мастацкая літаратура, 2006). Як сведчыць сам загаловак, Віктар Шніп у чарговы раз звярнуўся да ўлюбёнага жанра, зразумела на новым якасным эвалюцыйным вітку творчай спіралі. Беларуская балада нараджалася ў выглядзе паэтычных апрацовак нацыянальнай фантастыкі, міфалогіі, легендаў і паданняў (творы Яна Чачота, якіх дайшло да нас толькі восем) і ўвасаблення рэальна-легендарных постацей нашай гераічнай мінуўшчыны (ягоныя ж «Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года»).

У цыкле «Балады Вялікага княства» В. Шніп згадае Міндоўга, Гедзіміна, Альгерда, князёўну Альдону (некалі Ян Чачот хацеў уславіць подзвігі ліцвінак), Вітаўта, Грундвальда, Ягайлу (якраз годам смерці апошняга Ян Чачот закончыў свой цыкл, але ж на гэтым гісторыя ВКЛ не закончылася). Згадаем трагічна-падазроную гібель Барбары Радзвіл і ўцёкі яе злоснай, гатовай на ўсё свякрові каралевы Боны Сфорца, подзвіг друкара Сымона Буднага, аўтара «Статута ВКЛ» Льва Сапегі, песняра ВКЛ Міхаіла Агінскага. Гісторыка-рамантычная балада як бы прайшла кола з двух стагоддзяў і вярнулася назад на новым ідэйна-эстэтычным этапе. Па дарозе ён згадае балады Турава, Белай вежы, сонца, патопу, скрыпачкі, сцен, лесу, вятроў, караляў, усходу сонца, нават абыякавасці — а ў цэлым адну агульную «Баладу Айчыны», над якой уздымаецца пыл мінулых стагоддзяў, што пранесліся над ёй, пачынаючы ад легендарнага Ноя. Як помнікі — вектары развіцця стаяць балады закаханага мастака, апошняга князя, беларускіх герояў, смерці паэта, Храма, нават невядомасці, шчасця і вампіра.

Прафесійны мастак, сапраўдная асоба, можа класічныя партрэты падаваць у розных манерах, тое самае мы можам назіраць і ў трактоўцы В. Шніпа. Аднак партрэты паэта зусім не падобныя на жывапісныя, яны складаюцца з алюзій, асацыяцый, перастворaных цытат, злавесных і не вельмі сімвалаў і прадказанняў, артэфактаў часу і прасторы, архетыпаў. І ўсё, як і патрэбна для гістарычных твораў, у якіх апісваецца мінулае (не так істотна, далёкае ці не вельмі), усё ахутана смугою часу, настальгіяй, шкадаваннем. Ад выключнага песімізму ратуе не толькі шкадоба, што сышлі вялікія, а ўдзячнасць ім за тое, што былі. Усё гэта ўзмацняе афарыстычнасць радка, надае, здавалася б, звычайным падзеям адчуванне пазачасовасці, вечнасці, а традыцыйна-класічныя вобразы набываюць анталагічную сутнасць (новыя дарогі, пракладзеныя ў тумане, што ахутаў Радзіму, пралеглі праз магілы і вядуць цяпер не за небасхілы, а ў карчму і астрогі; вочы бачаць, як наш новы дзень ідзе, нібы дзіця, па залатой вадзе;

глядзяць на Ноя, як кароль на торбу, у якога слугі адабралі трон; у дамавінах няма святла, і ў галавешках няма свету; воі вырастаюць, каб зноў стаць травою; ёсць адказ на пытанне: «Хто мы? Але яго яшчэ не чуе Бог…».

Эксперыменты працягваюцца. Да цыклу «Балады аднаго года» В. Шніп дадае сем «Баладаў аднаго тыдня» і нават стварае «Баладу вясновага дня», дзе героямі становяцца Світанне, Раніца, Поўдзень, Шарая гадзіна і Вечар. Ды і балады года згадваюцца, калі знаёмішся з цыклам «Вандроўка ў часе», дзе 12 акравершаў складваюць месяцасловы. Павандраваўшы па сусвеце, пабываўшы ў каўчэгу, на Полі Грунвальда, у нябесных сферах, Віктар Шніп вяртаецца да вытокаў, крыніц, з якіх пачалася бруіцца ягоная паэзія. Сапраўдную прыгажосць знаходзіць ён у выключна зямных рэчах (хата з падмуркам, сценамі, вокнамі, страхой, печчу і парогам, якія могуць натхняць паэта не менш за экзатычныя рэаліі, ці той жа дым, варона, комін, кош, нара і страла).

Паэтычны сусвет В. Шніпа паступова траціць сваю вясёлкавасць (згадаем, што першы зборнік называўся «Гронка святла»). Святло, падзеленае на сем колераў праз паэтычную прызму бачання, знікае паступова (невыпадкова адзін з раздзелаў апошняй кнігі называецца «У дзень сонечнага зацьмення»), пакідаючы на палітры мастака толькі дзве галоўныя фарбы: «Белае і чорнае» — так называецца заключная частка кнігі, у якой, як сведчыць анатацыя, паэт «глядзіць на свет вачыма філосафа». Гэтым жа абумоўлена і выразна прыкметная тэндэнцыя да празаізацыі лірыкі, што найбольш яскрава ўвасоблена ў раздзеле «Дарога да храма», які складаецца з лірыка-філасофскіх мініяцюр і вершаў, дзе ёсць і слёзы, і любоў, і самота, і смех, і цнота, і грэх. Упершыню, бадай, у паэтычным зборніку (невыпадкова мы яго называлі кнігай), з’яўляецца «аповесць у празаічных мініяцюрах і вершах», дзе вылучана васямнаццаць асноўных, з пункту гледжання аўтара, артэфактаў, сутнасць і значнасць якіх для ўласнага жыцця народа, нацыі В. Шніп вызначае з дапамогай празаічных успамінаў, дзённікавых запісаў, згадак і вершаў, што стварае неабходную панарамнасць, надае новае бачанне звыклым рэчам, стварае атмасферу рэальнага жыцця ў арганічным спалучэнні мінулага і ягоных рэцыдываў у сучаснасці. У такім напрамку эвалюцыянуе сучасная паэзія.

Галоўнае (і гэта тычыцца не толькі і нават, хутчэй, не В. Шніпа, а ў значнай ступені ўсёй беларускай паэзіі) не дайсці да выслоўяў Іўліна Во: «Раньше экспериментировали в искусстве. Теперь экспериментом стало искусство». А то і да таго, пра што бурчэў О. Хакслі: «Реклама — самая интересная и самая трудная разновидность современной литературы. Легче сочинить десять правильных сонетов, чем хорошее рекламное объявление». Куды далей пойдзе беларуская паэзія — пабачым. Адно ясна: не да Гамера і Чачота, што і пацвярджае эвалюцыя балады.

## ВАРЫЯНТ 5

**Заданне 1.**

Сюжэты фантастычных фільмаў **ператвараюцца** ў рэальнасць. У сталічнай аптэцы з'явіўся робат-правізар.

У гэтай аптэцы заказаныя лекі знаходзіць і дастаўляе на касу не фармацэўт, а адмысловы робат. Каб сфармаваць адзін заказ, «Консісу» — гэта афіцыйнае імя аўтаматычнага правізара — неабходна ўсяго 7 секунд. Аптэкар у гэты час можа больш грунтоўна **пракансультаваць** пакупніка.

Сам робат уяўляе сабой шафу-назапашвальнік, у якой **змяшчаецца** да 10 тысяч упаковак, з якіх прыкладна палову займаюць лекавыя сродкі Рэспублікі Беларусь. Робат абслугоўвае чатыры касыадначасова.

Упершыню такія робаты з'явіліся ў Парыжы, дзе на невялікіх аптэчных плошчах стандартная выкладка не дазваляла паказаць увесь асартымент. Ёмістая разумная шафа адразу **вырашыла** гэтую праблему. Яшчэ адна праблема, з якой назаўжды развіталася рабатызаваная аптэка, гэта доўгая чарга.

У сярэднім у звычайнай аптэцы фармацэўт **абслугоўвае** аднаго пакупніка 5 хвілін. Са з'яўленнем робата-правізара гэты час скараціўся амаль утрая. Зараз набыць неабходныя лекі могуць каля паўтары тысячы чалавек у дзень.

**Заданне 2.**

1. Публіцыстычны
2. Рэпартаж
3. Апавяданне з элементамі апісання
4. Назвы структурных частак, абазначаных у тэксце лічбамі
   — Што новага з'явілася ў аптэцы.
   — Што такое «Консіс» і як ён аблегчыў работу аптэкараў.
   — Што сабой уяўляе робат.
   — Дзе ўпершыню з'явіўся робат і якія праблемы ён дапамог вырашыць.
   — Перавагі робата-правізара.

**Заданне 3.**

| № | Літара | Абгрунтаванне |
|---|---|---|
| 1 | в) | *Кардыналы* прызначаюцца папам. *Кашталян* — прыдворная пасада. Загадваў замкам, выконваў пэўныя судовыя абавязкі. *Нунцый* — пастаянны дыпламатычны прадстаўнік Папы Рымскага ў іншых краінах. |
| 2 | б) | *Кайло* — кірка: разбіў цэглу кайлом. |
| 3 | а) | *Зацірка* па-руску — мучная похлебка, приготовленная на воде. *Зацяжка* — слишком тяжело, слишком трудно. |

**Заданне 4.**

| Суфікс | Слова |
|---|---|
| -ох- / -ёх- | *прайдоха, чысцёха* |
| -ынк- / -інк- | *бедачынка, сірацінка* |
| нульсуфіксацыя | *абжора, трындоля* |
| -ыл- / -іл- | *дурыла, мазіла* |
| -ош- | *святоша, апівоша* |

**Заданне 5.**

Беларуса, які здрадзіў праваслаўю і прыняў каталіцтва: *Ян* — польска-каталіцкая форма праваслаўнага *Іван*.

**Заданне 6.**

| Тэматычная група | Словы | |
|---|---|---|
| Назвы асоб па пасадзе і роду заняткаў | *аплікант* | *жаўнер* |
| Назвы установаў і прамысловых прадпрыемстваў | *гута* | *пастарунак* |
| Назвы прадметаў адзення | *жупан* | *лапсярдак* |
| Назвы зброі | *палаш* | *паядынька* |
| Назвы адзінак вымярэння | *аршын* | *гарнец* |

***Даведка:*** Аплікант — вучань пры адвакаце ці землямеры; аршын — мера даўжыні; гарнец — мера сыпкіх і вадкіх цел; гута — шклозавод; жаўнер — салдат; жупан — доўгі суконны кафтан; лапсярдак — кафтан; палаш — сабелька; пастарунак — аддзяленне паліцыі ў Заходняй Беларусі; паядынька — аднаствольная паляўнічая стрэльба.

**Заданне 7.**

Байкер — *матацыкліст*, *веласіпедыст*; банкінг — *банкаўскае абслугоўванне*; блокбастар — *касавы фільм*; электарат — *выбаршчыкі*; камедзі клаб — *камедыйны клуб*; марчэндайзер — *рэкламны агент*; прайм-тайм — *найвыгаднейшы час* (у эфіры); супер! — *вышэйшы клас*! ток-шоу — *размоўная праграма*; хіт — *штосьці вельмі папулярнае*.

**Заданне 8.**

Кожная дзейная асоба размаўляла на мове, адпаведнай свайму сацыяльнаму паходжанню: сяляне, прадстаўнікі гарадскіх нізоў — *па-беларуску*, ксёндз, студэнт — *на латыні*, шляхціц — *па-польску*, цыган, яўрэй — *на змешанай (беларуска-польскай трасянцы)*.

**Заданне 9.**

| Правіла | Прыклад слоў з тэксту |
|---|---|
| *Правапіс спалучэнняў галосных* | *трыолет* |
| *Правапіс літар* ***з*** */* ***с*** *у прыстаўках* | *разстаньне* |
| *Правапіс мяккага знака* | *разстаньне, сьлёз* |
| *Правапіс* ***э*** *не пад націскам* | *чэрней* |

Аўтар твора: *Максім Багдановіч.*

**Заданне 10.**

| Сродкі мастацкага адлюстравання і мастацкай выразнасці | Прыклады з тэксту |
|---|---|
| *Традыцыйныя фальклорныя эпітэты* | *Сізая галачка, залатыя ключы, халодную зімачку, цёплае лецечка* |
| *Паэтычны зваротак* | *Сізая галачка* |
| *Памяншальна-ласкальная форма слоў* | *Зімачку, лецечка* |
| *Паэтычны вобраз-сімвал* | *«Сізая галачка», якая «залатымі ключамі» замыкае «халодную зімачку» і адмыкае «цёплае лецечка», — гэта паэтычны вобраз-сімвал, традыцыйны народнапесенны «знак» надыходу вясны.* |
| *Метафары* | *Замкнуць, як хату або клець, зіму і адамкнуць лета — значыць утварыць дзеянні яўна метафарычныя (дзеясловам тут нададзены пераносны сэнс).* |
| *Аднародная сінтаксічная будова частак сказа* | |

**Заданне 11.**

1. Ад прадзедаў **спакон вякоў** мне засталася спадчына (*Я. Купала*). 2. Калісьці Шэф таксама **нюхаў порах** (*К. Крапіва*). 3. А нівы — **вокам не абняць**, і гэта ўсё мой край (*А. Русак*). 4. **Даліся ў знакі** ўся напружанасць і зморанасць за апошнія дні, пераходы, бяссоныя ночы (*М. Лынькоў*). 5. Для Лабановіча стала відавочна, што з Анцыпікам **кашы не зварыш** (*Я. Колас*).

**Заданне 12.**

Па памерах тэрыторыя Рэспублікі Беларусь займае трынаццатае месца сярод еўрапейскіх дзяржаў і шостае — сярод краін СНД. У Еўропе Беларусь па плошчы крыху саступае Вялікабрытаніі і Румыніі і больш чым у два цэлыя дзве дзясятыя рызы пераўзыходзіць Партугалію і Венгрыю. Агульная плошча — дзвесце сем цэлых шэсць дзясятых тысяч квадратных кіламетраў. Найбольшая працягласць з захаду на ўсход — шэсцьсот пяцьдзясят км, з поўначы на поўдзень — пяцьсот шэсцьдзясят кіламетраў.

Адлегласць ад Мінска да сталіц суседніх дзяржаў наступнае: Вільнюса — дзвесце пятнаццаць, Рыгі — чатырыста семдзясят, Варшавы — пяцьсот пяцьдзясят, Кіева — пяцьсот восемдзясят, Масквы — сямсот.

**Заданне 13.**

Пачатак тае **в**осені на **п**оўдні **П**але**сс**я**,** у м**і**жрэччы Прып**я**ці і Дн**я**пра**,** выда**ў**ся пагодл**і**вы, надзіва сухі і цёплы. Сонца, падняўшыся рана, н**е** хавалася да сам**а**га зах**о**ду — грэла, пякло, зусім як **у**летку. Дні стаялі светлыя, ясныя, бы кры**ш**таль, а ле**дз**ь в**е**чарэла — высыпалі зоры. Зор высыпала стольк**і,** што ад іх аж б**я**лела неба.

Нав**о**кал было ціха-ціха. І ўжо здавалася: так тут і будзе**,** **ні**што **ні**колі н**е** змяніцца. Але ў**с**хадзіўся, падз**ь**муў вец**е**р, нагн**а**ў хмар. Пасыпаўся до**ж**дж — дробны, нудны, халодны **(***Паводле Б. Сачанкі***)**.

*У міжрэччы Прыпяці і Дняпра* — адасобленая акалічнасць месца, выражаная словазлучэннем, удакладняе акалічнасць *на поўдні Палесся* і стаіць пасля яе.

*Падняўшыся рана* — адасобленая акалічнасць часу, выражаная дзеепрыслоўным словазлучэннем, стаіць перад дзеясловам *не хавалася*.

*Дробны, нудны, халодны* — адасобленыя дапасаваныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі, стаяць пасля назоўніка *дождж*.

**Заданне 14.**

1. Праца гадуе, а лянота **марнуе**.
2. Дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота — **пуста**.
3. Хто працуе, таму і **шанцуе**.
4. Горкая часам праца, ды хлеб ад яе **салодкі**.
5. Ад ляноты чакай **бядоты**.

**Заданне 15.**

1. Паралелізм
2. Анафара
3. Зваротак
4. Інверсія

**Заданне 16.**

1. Шкадава́ць сябра
2. Клапаціцца пра бацькоў
3. Зайздросціць суседцы
4. Мне сёння шанцу́е
5. Не варта сварыцца
6. Ныркі
7. Жартава́ць // шуткава́ць з мужчыны
8. Паса́г
9. Дзякуй за ўвагу!
10. Брат старэйшы за сястру́
11. Больш за трыццаць гадоў мінула
12. Ён паўнале́тні
13. Скроні пасівелі
14. У што быў апрануты той чалавек?

**Заданне 17.**

С**я**род густой лі**с**твы бадзёра спяваюць з**я**блікі і дразды, часам прарэзліва крычыць дз**я**цел, клапа**т**ліва м**і**тусяцца р**о**зныя дро**б**ныя птушкі, якіх немаг**ч**ыма як след разглядзець (*В. Вольскі*).

Сказ складаецца з чатырох частак. Першая і другая частка — простыя, трэцяя — галоўная, звязваюцца яны паміж сабой бяззлучнікавай сувяззю, чацвёртая частка — даданая азначальная, звязваецца з галоўнай злучальным словам *якіх* і паясняе слова *птушкі*. Гэта складаны сказ з рознымі відамі сувязі: бяззлучнікавай і падпарадкавальнай.

Схема сказа:

[...], [...], [...], (якіх ...).

**Заданне 18.**

Адказ: г)

Неабходна разглядаць адносіны прэфікса і слова: прэфікс (прыстаўка) з'яўляецца часткай слова (калі яна ёсць у слове). Цяпер прыменім гэтыя адносіны да пары акалічнасць і невядомае. Акалічнасць з'яўляецца часткай (членам) чаго? Адказ адназначны — сказа.

**Заданне 19.**

**Бурштынам** называюць выкапнёвую смалу хвойных дрэў, мінерал класа арганічных злучэнняў пераважна жоўтага, чырвонага, карычневага ды белага колераў. Самае ранняе пісьмовае ўпамінанне пра **бурштын** —

клінапіс на абеліску X стагоддзя да н. э., які знаходзіцца ў Брытанскім музеі. Гэта адзін з першых каштоўных камянёў, што здабывалі і выкарыстоўвалі як упрыгожванне і як лекавы сродак нашы старажытныя продкі славяна-арыі яшчэ ў часы палеаліту (450—12 тысяч гадоў да н. э.). Вучоныя мяркуюць, што цяперашні **бурштын**, які ёсць у Балтыйскім моры, сваім паходжаннем абавязаны соснам і кедрам, што раслі ў субтрапічным клімаце больш за 40 мільёнаў гадоў таму.

Існуе больш за 30 назваў гэтага рэчыва, кожная з якіх адлюстроўвае нейкую ўласцівасць каменя. Старажытныя грэкі, напрыклад, заўважылі, што ён можа прыцягваць да сябе кавалкі папіруса, таму назвалі *электронам* (ст.-грэч. *ἤλεκτρον*) — у гонар зоркі Электра. Такое найменне пазней выкарыстоўвалі і ў Старажытнай Русі — ілектр або ілектрон. Рымляне атаясамлівалі бурштын з акамянелым сокам дрэў. Адсюль «сукцынум» (ад лацінскага *«Succus»* — сок). Літоўцы і латышы лічылі камень ахоўнікам ад хваробаў. І гэта адлюстравалі назвы *Gintaras (гінтарыс), dzintars (дзінтарс)*, дзе «гінці» — ахоўваць. Рускі тэрмін **янтарь**, упершыню зафіксаваны ў XVI стагоддзі, быў запазычана менавіта ад літоўцаў.

У наш час на Брэстчыне было адкрыта адно з першых радовішчаў **бурштыну** ў Беларусі. І менавіта там **«Бурштынам»** названы народны ансамбль народной песні з Кобрына.

## ВАРЫЯНТ 6

**Заданне 1.**

«Падарожжы Гулівера» Джонатана Свіфта можна назваць раманам-памфлетам. Памфлетны пафас кнігі выяўляецца ў публіцыстычнасці і гістарычнай канкрэтнасці **выкрывальнай** крытыкі; у адкрытай падпарадкаванасці ўсёй структуры твора тэндэнцыйнай аўтарскай задуме. Разам з тым твор мае **яскравыя** прыкметы рамана: у цэнтры яго выразны мастацкі вобраз доктара Гулівера, паказаны ў эвалюцыі і развіцці.

Калі ў Ліліпутыі Гулівер уражвае сваімі **велізарнымі** памерамі, то ў Брабдынгнэгу, каралеўстве веліканаў, ён сам аказваецца **маленькім**, нібы жамяра, і ўсе тыя адмоўныя якасці, якія здаваліся Гуліверу вартымі смех у ды жалю сярод ліліпутаў, цяпер уласцівыя яму самому. Усхваляючы палітычны лад, звычаі сваёй радзімы перад мудрым, адукаваным каралём краіны веліканаў, Гулівер выяўляе сваю ўнутраную абмежаванасць, імкненне жыць без лішніх клопатаў. Галоўнае для яго — не выносіць смецце са сваёй хаты, прыстасавацца да абставін дзеля далейшага **бесклапотнага** жыцця.

Стыль тэксту — *навуковы*.
Тып маўлення — *разважанне*.

**Заданне 2.**

*Вартымі смеху* (другі варыянт — *смеху варта*) — Смешна! Смех!

*Выносіць смецце са сваёй хаты* — выдаваць тое, што не павінны ведаць іншыя, бо гэта нясласіць сям'ю, калектыў.

**Заданне 3.**

Па колькасці насельніцтва Беларусь займае пятае месца сярод краін СНД, сямнаццатае месца — у Еўропе і восемдзясят дзявятае ў свеце. На першае студзеня дзве тысячы чатырнаццатага года колькасць жыхароў у Рэспубліцы Беларусь — каля дзевяці з паловай мільёнаў, шчыльнасць насельніцтва складае сорак шэсць жыхароў на адзін квадратны кіламетр. Сярод рэгіёнаў найменш шчыльна населенай з'яўляецца Віцебская вобласць — трыццаць чалавек на адзін квадратны кіламетр.

Па даных перапісу насельніцтва дзве тысячы дзявятага года, на тэрыторыі Беларусі пражывалі больш за сто трыццаць нацыянальнасцей(яў), сярод якіх беларусы (восемдзясят тры цэлыя сем дзясятых працэнта), рускія (восем цэлых тры дзясятыя працэнта), палякі (тры цэлыя адна дзясятая працэнта).

На канец дзве тысячы трынаццатага года ў гарадах Беларусі пражывала каля сямідзесяці працэнтаў жыхароў, у вёсках — каля дваццаці пяці. З іх пяцьдзясят пяць працэнтаў складалі мужчыны, сорак пяць — жанчыны.

**Заданне 4.**

| № | Літара | Абгрунтаванне |
|---|---|---|
| 1 | в) | *Ветрам зваліла бярозу*. **Нельга**: *Леснікам зваліла альху*. |
| 2 | а) | На гэта ўказвае злучнік *а*. |
| 3 | б), в) | Полісемія выкарыстоўваецца для стварэння жартаў, анекдотаў, каламбураў. Напрыклад: *Па дарозе ў Луўр д'Артаньян загнаў двух коней, аднаго Партосу, другога Атосу*. |
| 4 | а) | *Абат* — настаяцель каталіцкага мужчынскага манастыра, каталіцкі святар; *асэсар* — судовы засядацель. |
| 5 | б) | Шпак і варона не маюць спадыспаду (знізу) белага апярэння (палатна). |

**Заданне 5.**

| Сказ | Слова, якое трэба замяніць | Слова, якое трэба ўставіць |
|---|---|---|
| 1 | *пацеркі* | *пацеры* |
| 2 | *пісьменства* | *пісьме́ннасць* |
| 3 | *драўляны* | *драўнінны* |
| 4 | *лёх* | *лёк* |

**Заданне 6.**

| Прымаўка | Сродкі мастацкай мовы |
|---|---|
| І сцены вушы маюць. | *метафара* |
| І ваўкі сытыя і авечкі цэлыя. | *паралелізм* |
| І так загінуў, і так прапаў. | *сінанімія* |
| Адзін з сошкай, а сямёра з ложкай. | *метанімія* |
| Госць першы дзень золата, другі дзень срэбра, а на трэці медзь, хоць дадому едзь. | *градацыя* |
| Я не арганіст, не перабіраю. У свінні рыла, каб рыла. | *аманімія* |

**Заданне 7.**

| Суфікс | Слова |
|---|---|
| *-айк-* | папрашайка |
| -ак- / -як- | *служака, здаравяка* |
| *-г-* | бадзяга, туляга |
| -к- | *выхваляка, выскачка* |
| *-л-* | запявала |
| -он- | *ціхоня* |
| *-ук- / -юк-* | злюка, |
| -ейк- | *госцейка* |
| -ачк- / -ячк- | *сіротачка, нецярпячка* |
| *-ул- / -юл-* | капрызуля, чысцюля |

**Заданне 8.**

1. Паэма

2. Я. Колас «Сымон-музыка», Я. Купала «Курган», М. Танк «Люцыян Таполя», Зм. Бядуля «Салавей»

Таленавітасць беларускага народа

| Галоўныя героі твораў | Агульныя рысы |
|---|---|
| Гусляр, Сымон, Салавей, Люцыян Таполя, Бандароўна, Машэка | Асобы незвычайныя, выключныя, моцныя, надзеленыя незвычайным дарам: талентам (Гусляр, Сымон, Салавей, Люцыян Таполя), прыгажосцю, гармоніяй знешняга і ўнутранага хараства (Бандароўна), фізічнай сілай (Машэка). |

**Заданне 9.**

| Змены ў напісанні літар | Прыклады з тэксту |
|---|---|
| Зменена напісанне літары ***в*** на ***v*** | na**v**ukoўцаў, sлa**v**ян, sлa**v**яnцтva |
| Зменена напісанне літары ***н*** на ***n*** | **n**a, ukrai**n**sкай |
| Зменена напісанне літары ***р*** на ***r*** | nap**r**укanцу, **r**азviццё |
| Зменена напісанне літары ***с*** на ***s*** | U**s**ë, Pале**ss**i, рачаў**s**я |
| Зменена напісанне літары **у** на **u** | nav**u**коўцаў, белар**u**sкай |
| Зменена напісанне літары **п** на **p** | **p**raraдзімu, **p**oўdзen’ |
| Зменена напісанне літары **д** на **d** | sтaho**dd**зя, a**d**sюл’ |
| Зменена напісанне літары **г** на **h** | sтa**h**oddзя |
| Зменена напісанне літары **ы** на **y** | т**y**х, napr**y**каnцу |
| Замест **ь** ужываецца ’ | шикаюц’, рол’sкай |

**Заданне 10.**

1. У народных ці літаратурных казках, паганскіх легендах перамагчы зло носьбітам дабра дапамагаюць **птушкі, звяры, нават нежывыя рэчы.**

2. У творах Яна Баршчэўскага толькі **чалавек** супрацьстаіць злу ў розных яго выяўленнях.

3. Кот Варгін, Белая Сарока, чорны сабака, вуж — **усё гэта слугі д’ябла.**

4. Скразнымі вобразамі ў кнізе Яна Баршчэўскага, якая складаецца з кампазіцыйна і сюжэтна завершаных апавяданняў з’яўляюцца **Плачка, шляхціц Завальня, Янка.**

**Заданне 11.**

а) беспрацоўны
б) выдавец
в) гарбар
г) абібок, лайдак
д) друкар
е) цясляр
ж) кравец
з) пчаляр
і) гандляр
к) шавец
л) святар
м) фельчар
н) тынкоўшчык
о) шкляр

**Заданне 12.**

1. Каб рыбу есці, трэба ў ваду **лезці.**
2. Трэба нахіліцца, каб з ручая **напіцца.**
3. Каб вады напіцца, трэба ёй **пакланіцца.**
4. Вады не засіліш не паварушыўшыся, рыбы не зловіш **не памачыўшыся.**
5. Па дарозе ідучы, грыбоў **не набярэш.**

**Заданне 13.**

Адказ: б)

Устанаўліваем адносіны паміж абрэвіяцыяй і назоўнікам — устанавіць цяжка. Глядзім на адносіны абрэвіяцыяй і словаўтварэннем. Заўважаем, што абрэвіяцыя адзін са спосабаў словаўтварэння. Прымяняем гэтыя адносіны да назоўніка: назоўнік — адна з часцін мовы, якой выражаецца дзейнік.

**Заданне 14.**

| | | |
|---|---|---|
| Ашалявацць | (шара́к) | ракушка |
| завулак | (вулей) | лейкапластыр |
| адбарабаніў | (*багор*) | горка-салёны |

Слова ў дужках змяшчае другую і трэцюю літары пасля прыстаўкі слоў, што стаяць перад дужкамі, і першыя тры літары слова, змешчанага пасля дужак. Як вынік, адказ: *ба* + *гор* = *багор*.

**Заданне 15.**

Адпачынак, адпачын, спачын, спачыванне, супакой, палёгка, перадышка.

**Заданне 16.**

Адказ: б)

За выключэннем лютага, у якім не бывае 30 дзён, усе астатнія месяцы маюць 30 дзён, а некаторыя нават 31 дзень.

**Заданне 17.**

Беларускі**я** лірычны**я** пе**сн**і, як све**д**чыць іх змест, некаторыя л**е**ксічныя і ст**ы**лістычныя прыкметы, а таксама асаблiва**сц**і напеваў, узніклі, на думку **в**учоных, у той пер**ыя**д сярэдн**е**вякоўя, калі скла**дв**алася сама беларуская народна**сць**. Жанр лірычнай пе**сн**і адзін **з** самых багатых у вуснапаэтычнай творча**сц**і беларускага народ**а** як па колька**сц**і песе**нн**ых тэкстаў, так і па невычарпальнай разнастайнасці тэм і мат**ы**ваў. Чым жа тлумачыцца такое шырокае бытаван**н**е беларускай народнай лірычнай пе**сн**і і па сё**нн**яшні дзень? Чым абумоўлена яе такая незвычайная жыцц**я**здольнасць? Адказ на гэтыя пытанні, думаецца, вельмі просты: народная лірычная пе**сн**я на працягу стаго**ддз**яў была амаль адзінай і галоўнай эмацыянальна-эстэтычнай формай духоўнага жыцця беларускага с**я**лянства: асноўная частка беларускіх народных песень сялянскага паходжання. Сац**ыя**льна прыгнечаны, ізаляваны ад культурнага жыцця грама**дст**ва, не ведаючы роднай пісьмовай мовы, с**е**лянін в**я**камі толькі пры дапамозе вуснапаэтычнага

слова **ў** пе**сн**і мог выказаць сва**е** думкі, свой настрой, падзя**л**іцца горам, крыўдай, сумнен**н**ямі, пакутамі душы (*А. Гурскі*).

Від сувязі — *ланцуговая*.

Сродкі сувязі — *паўтор слоў (песня), займеннік (яе)*.

**Заданне 18.**

| Словы для характарыстыкі | |
|---|---|
| фізічнага стану чалавека | чалавека як працаўніка |
| *Атруда, зялепуха, недалужны, нядужы, пачунець* | *За́валень, руплівы, латру́га, папіха́чка, капошка* |

***Даведка***. *Атруда* — утворана ад кораня *-труд-*; раней гэтае слова абазначала цяжкую хваробу, цяпер сустракаецца ва ўстойлівых зваротах і кленічах у дачыненні да чалавека (Нейкая атруда ўзяла, хоць ты скорую выклікай). *Зялепуха* — 1) няспелая ягада; 2) хваравіты чалавек (перан.). *Недалужны* — няўмелы, худы. *Нядужы* — слабы, без сілы. *Пачунець* — выздаравець. *За́валень* — нядбалы, абыякавы, лянівы. *Руплівы* — дбайны, старанны, клапатлівы. *Латруга* (ням. *lotar*) — гультай, абібок. *Папіха́чка* — бездапаможны, бязвольны, які нічога не можа зрабіць сам, па сваёй ініцыятыве, якога ўсюды «піхаюць», пасылаюць абы-куды. *Капошка* — той, хто ледзь варушыцца, корпаецца, павольна і няўмела робіць, асабліва пры зборах куды-небудзь.

**Заданне 19.**

Вось што пісаў пра гэты сказ Алесь Каўрус: «Дзеяслоў *навучыўся* мае пры сабе два залежныя, злучаныя пры дапамозе злучніка *і* назоўнікі — *мове*, *песняў*. У такім кантэксце, ужытыя як аднародныя дапаўненні, яны павінны мець форму або толькі давальнага (мове, песням), або толькі роднага склону (мовы, песняў) — такія варыянты вядомыя беларускай літаратурнай мове: *Наўчыўся я* ***слоў*** *беларускіх ад маці...* (*Я. Купала*)»

Выпраўлены варыянт сказа:

*У добры час на ўлонні вясковым, дзе вадзіца крынічная б’е, навучыўся я матчынай* ***мове*** *і задуманым* ***песням*** *яе.*

Або:

*У добры час на ўлонні вясковым, дзе вадзіца крынічная б’е, навучыўся я матчынай* ***мовы*** *і задуманым* ***песням*** *яе.*

**Заданне 20.**

## На чужым грунце

Самая важная прычына ўсіх яго нягод крылася ў тым, што гэта Каліва расло на чужым грунце. Хто яго ведае, як занеслася яно на зялёны луг. Але ласне яно вінавата? Або хто вінават? І навошта шукаць вінаватага? Проста выкінулася зернетка аржаное з мяшка, як везлі ў млын жыта, — ці ж не магло хіба так стацца? А можа, які падарожны, ідучы полем, сашмаргнуў, не думаючы, каласок і ішоў потым праз гэты луг і кінуў зернетка. Толькі ж узрасло яно між чужынцаў: поруч з ім рос званец, мяцёлка, а каля саменькага карэння ціснулася ўсялякая трава-драбяза: шчытнік, імяло, белая дзяцеліна, муражок і розныя краскі. Але гэтыя суседзі не хацелі знацца з сірацінай і лічылі вялікаю ганьбай для сябе і свайго гонару кампанёўства з закіданым Калівам Жыта. Ну, што ж! Хіба змусіш каго, каб любіў цябе, раз ты нікому не люб? Няхай!

Надышла вясна. Вясна гэта такая пара, у якую адны толькі няўдатнікі, адны бяздольнікі, па справядлівасці нешчаслівыя, не знаюць радасці. Вясна — гэта пара, калі ўсе спяшаюцца скарыстаць гэты час для шырокай вясёласці і глыбокага жыцця сэрца. Бывала, чуць-чуць пачне паказвацца з-за лесу сонца, а на лузе ўжо пачыналіся спевы, шчаслівыя, улюбёныя шэпты чаротаў з высокай жорсткаю асакою. Падыдзе сонейка яшчэ вышэй, пачынаюць злятацца матылёчкі, ды такія прыгожыя, так хараша ўбраныя, што найпершы зух-фарсун пазайздросціў бы ім. Усякія травы, кветкі, кожны кусцік, кожная саломінка, падымалі голавы, цягнуліся к сонцу, віталі яго і ў чэсць яго курылі найлепшымі ладанамі — чысцейшымі туманамі раніцы і прыямнейшымі пахамі свежых красак лугу. І сонейка віталася з імі і рассыпалася золатам, дыяментамі ў кожнай капельцы расы, адлівала ўсімі колерамі вясёлкі.

Закіданае Каліўца Жыта таксама жадала сонца і цягнулася да яго кожнаю сваёй жылкай, усім нутром сваім. Мяцёлка штурханула яго.

— Куды сунешся, мужыцкая ўцеха? — сказала задзіра-мяцёлка.

— Шу-шу-шу, — зашапялявіў званец (гэта смех яго такі). — Змый наўперад пясок са свайго рыла, тады пазірай на сонейка.

— Яно тут фанабэрыі панабралася, усіх адціснуць хоча і заняць чужое месца, — шаптала знізу трава-драбяза.

Слова не сказала Жытцо на такую знявагу. І што ты адзін зробіш проці ўсіх? А хіба жыта не ўмее цярпець? Якая ж другая расліна зазнае такога гора, як жыта? І яно цярпела, толькі сэрца ледзьве-ледзьве магло стрываць, каб не разарвацца ад жалю — так многа сабралася яго. Хоць бы было з кім пагаманіць, слова прамовіць, разважыць сваю тугу, думкі паганыя разагнаць, — усё ж было б лягчэй. І толькі той пойме, як цяжка было гэтаму

Каліву ў лузе, хто сам многа перажыў, многа меў у сэрцы горкіх думак, якімі не з кім было падзяліцца.

Але мінуліся веснавыя дні. У пагодзе зрабілася вялікая змена; пачалася суш. Заныў луг, пажаўцелі груды, цяжкія пачаліся часы. Рыжыя мурашкі хадзілі, як непрытомныя, не ведаючы, за што ўзяцца; пчолкі, чмелікі званілі яшчэ жудасней, яшчэ нудней, пралятаючы над лугам і не знаходзячы сабе пажытку, толькі авадні і сляпцы красаваліся і паганым звонам рэзалі сэрца. Конікі пазмаўкалі і толькі вечарамі распачыналі сваю жальбу. Травы сохлі і жоўклі, прыгожыя краскі тужліва хілілі свае зграбныя галоўкі, дарэмна шукаючы цяньку, і сохлі без часу. Глухі шум, нараканне пайшлі па лузе, трывожна гаварыў луг пад гарачым ветрам. Пачалі травы і краскі судзіць-разважаць, вышукваць прычыны такога няшчасця. Адзін казаў тое, другі другое, — і ўсе шумелі, ніхто не слухаў нікога, і толку ніякага не дабіліся.

— Спытайма хіба ў ручайка: ён самы мудры на лузе, — урэшце параіў чарот. І праўда, ручаёк тут быў самы старэйшы і болей ад усіх ведаў жыццё. Стаяў тут таксама і стары дуб, але сам ён прызнаваўся, што і дзед яго не памятае такога часу, калі б у лузе не было ручайка. Прыйшлі да ручайка травы-пасланцы, бухнулі ў ногі яму — няшчасце навучыць гнуць галавы. «Так і так, — кажуць, — навучы, што рабіць, дай ты нам раду». Слухаў мудры ручаёк гэту просьбу травы.

— Заўтра скажу, а цяпер дайце мне падумаць, распытаць таго-сяго.

— От што, мілыя, — сказаў назаўтра ручаёк, — сонейка ўгнявалася на вас. Найдзеце між вамі самага няшчаснага, і няхай ён раскажа сонейку сваё цяжкае жыццё-нядолю; тады яно зжаліцца над вамі і прыкажа ветру нагнаць хмары.

Хто ж тут самы нешчаслівы? Кожнаму здавалася, што ён і ёсць самы няшчасны. Прылятаюць матылькі і кажуць: «Аржаное Каліва — самае няшчаснае». І вецер пацвердзіў, што гэта праўда. Пасылае луг паслоў да Аржанога Каліва, кланяюцца жыту паслы, просяць заступіцца за ўсіх. А жыта звесілася коласам і маўчала: цяжкая доля, знявага аднялі ад яго дар слова. І сонца яшчэ гарачэй стала прыпякаць лугавыя травы.

## ВАРЫЯНТ 7

**Заданне 1.**

1) чаргаванне заднеязычнага з шыпячым ([г–ж]);
2) чаргаванне галосных ([э–а], [а–э]);
3) змяненне націску.

**Заданне 2.**

а) *агурочнік*
б) *ажыннік*
в) *бурачнік*
г) *гарбузнік*
д) *дурнічнік*
е) *парэчнік*
ж) *Жардняк*
з) *цярноўнік*
і) *вярбняк*
к) *сасняк*

**Заданне 3.**

1. *Дарагая залатовачка:* ***каля рубля ляжала.*** / няпоўная двухсастаўная частка

2. *Зерне да зерня —* ***будзе поўная мерня.*** / поўная двухсастаўная частка

3. *Кінь за сабою,* ***знойдзеш перад сабою.*** / аднасастаўная пэўна-асабовая частка

4. *Круці жорны пільна,* ***то і тут будзе Вільня.*** / поўная двухсастаўная частка

5. *Не бі чужога цела —* ***будзе сваё цэла.*** / няпоўная двухсастаўная частка

**Заданне 4.**

Дыякрытычныя знакі (дыякрытыкі) — гэта рознага тыпу надрадковыя, падрадковыя, радзей унутрырадковыя знакі, што прымяняюцца для змянення або ўдакладнення сэнсу асобных літар. У беларускім алфавіце дыякрытыкі ўжываюцца для размежавання наступных літар: ***е*** і ***ё***, ***у*** (складовае) і ***ў*** (нескладовае).

**Заданне 5.**

1. падпарадкавальны злучнік
2. колькасны лічэбнік
3. назоўнік
4. прыслоўе

Яны знаходзяцца *ў адносінах функцыянальнай аманіміі.*

**Заданне 6.**

| Суфікс | | Беларускамоўны прыклад |
|---|---|---|
| рускамоўны | беларускамоўны | |
| -еств (о) | -от- | адзінота (рус. *одиночество*) |
| -ечь | -от- | гаркота (рус. *горечь*) |
| -отн (я) | -нін (а) | беганіна (рус. *беготня*) |
| -ств (о) | -асць (-осць) | мужнасць (рус. *мужество*) |

**Заданне 7.**

**Песня пра хлеб**

Хлеб — ча**сц**інка нашага жы**цц**я. Хлебам-со**лл**ю нашы бацькі пачыналі зажынкі, з хлебам-со**лл**ю выходзілі насустрач самым жаданым гасцям, хлебам-со**лл**ю ў час вясе**лл**яў сустракаюць маладых.

Нашы дзяды і бацькі, бабулі і матулі ўмелі шанаваць хлеб. У іх быў такі звычай, закон: калі кавалач**а**к хлеба падаў са стала, яго патрэбна было падняць і перад тым, як з'есці, абавязкова **пацалаваць**.

Я вяртаюся ў тое рада**сн**ае і незабыўнае **св**ята, калі да нас, паслявае**нн**ых падлеткаў, прыходзіў на стол хлеб. Не з крамы, як зараз, а са звычайнай задымленай вясковай печы. Нярэдка чорны, з асцюкаватай жытняй мукі, ча**сц**ей за ўсё змолатай на хатніх жорнах, спечаны часам не ў формах, а ў салда**ц**кіх казках, але такі духмяны, смачны, жаданы.

Так здавалася, бо н**е** было яго ўдосталь, бо рады былі кожнай скарыначцы, бо не заўсёды хапала яго да новага ўраджаю. Не хапала, бо малаўрадлівай была зямля, толькі станавіліся на ногі разбураныя калгасныя гаспадаркі.

Як і ў старэйшых, у нас, дзяцей, н**е** было ніводнага бе**с**клапотнага дня. І мы тады ганарыліся, што н**е** дарэмна елі хлеб, былі шчодрымі памагатымі ў сем'ях: у час жніва памагалі малаціць збажыну, праве**й**ваць, сушыць на таках, а потым н**е** адзін раз на год завіхаліся, круцілі ця**ж**кія жорны. Круцілі, стараліся, бо ведалі, што за гэтым нас чакае свята: (—) маці будзе пячы хлеб.

**Заданне 8.**

а) назоўнік, займеннік, дзеяслоў, прыназоўнік, прыслоўе, прыметнік;
б) часціца, злучнік, выклічнік

**Заданне 9.**

| Няправільна выкарыстаная часціна мовы | Правільная форма | Абгрунтаванне |
|---|---|---|
| *Ні за якой* (адмоўны займеннік) | Ні за я́кай (ні за я́каю) | Ва ўсіх формах адмоўнага займенніка *ніякі* націскным з'яўляецца другі склад, г. зн. націск падае на гук [а] (на пісьме літара ***я***). |
| Форма дзеяслова *пабягуць* | будуць бегаць | Дзеяслоў павінен мець форму незакончанага трывання, паколькі перадаецца працягласць дзеяння, а не яго вынік (*бегаць за кім*). |

Нарматыўны варыянт сказа: *Ні за якай дзяўчынай хлопцы так не будуць бегаць, як за ёй.*

**Заданне 10.**

Па семантычнай прымеце поўнага/часовага карыстання: *узяць лыжкі* (г. зн. назаўсёды), *узяць лыжак* (г. зн. пазычыць на некаторы час).

**Заданне 11.**

| Фразеалагізм і яго індывідуальнае значэнне | Фразеалагізм-антонім |
|---|---|
| Белая костка (*чалавек дваранскага паходжання*) | Чорная костка |
| Хоць на воўка ўзлезь (*зусім нічога не відаць з-за цемры*) | Хоць іголкі збірай |
| За маліну (*есці з вялікай ахвотай, са смакам*) | Як на плот вешаць |
| Пападаць пальцам у неба (*гаварыць ці рабіць што-небудзь неўпапад, недарэчна*) | Пападаць у цэль; пацэліць у дзясятку; як у сук уляпіць |
| Адкрытым тэкстам (*гаварыць проста, шчыра, без хітрыкаў, не тоячыся*) | За вочы |

**Заданне 12.**

1. Рабіць дабро.
2. Не ўмешвацца ў справы іншых людзей.
3. Добра працаваць.
4. Быць асцярожным у словах.
5. Разборліва ставіцца да выбару мужа (жонкі).
6. Не браць чужога.

**Заданне 13.**

1. байка
2. александрыйскі верш
3. белым
4. гратэск
5. свабодны верш, або верлібр
6. класіцызм

**Заданне 14.**

| Азначэнне | Тэрмін | Сінанімічныя тэрміны / разнавіднасці |
|---|---|---|
| Малая празаічная форма, замалёўка з слабаразгорнутым сюжэтам або бессюжэтная. | абразок | мініяцюра, эцюд, замалёўка |
| Невялікі апавядальны твор, у якім расказваецца, як правіла, пра нейкі адзін вызначальны выпадак (сітуацыю, падзею) з жыцця чалавека. | апавяданне | навэла, нарыс, памфлет, фельетон, гумарэска |

*Канчатак табл.*

| Азначэнне | Тэрмін | Сінанімічныя тэрміны / разнавіднасці |
|---|---|---|
| Від рыфмаванага верша, у якім у адвольнай паслядоўнасці спалучаюцца радкі з рознай колькасцю стопаў. | вольны верш | байкавы верш (ім пішуць звычайна байкі), вольны ямб |
| Лаканічныя трапныя і дасціпныя ўстойлівыя народныя выразы, часта гумарыстычнага характару, што ўжываюцца ў розных выпадках на працы і ў час адпачынку. | выслоўі | жарты, каламбуры, тосты, вясельныя прыгаворкі, вітанні і зычанні, прысяганні і кленічы, дражнілкі, хуткавымаўлянкі (скорагаворкі) |
| Невялікі алегарычны аповед павучальнага характару, у якім няма традыцыйных умоўных персанажаў. | прытча | прыпавесць |

**Заданне 15.**

Яўхім Фёдаравіч Ка́рскі. Адна з найбольш значных прац Я. Карскага — «Беларусы» у трох тамах (1903—1922), якая з'яўляецца вышэйшым дасягненнем еўрапейскай славістыкі канца XIX — пачатка XX стагоддзя, фактычна энцыклапедыяй беларусазнаўства.

Браніслаў Тарашкевіч. У 1918 годзе, працуючы загадчыкам культурнаасветнага аддзела Белнацкама, падрыхтаваў і выдаў у Вільні першую «Беларускую граматыку для школ».

Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі. Вывучаў беларускую фразеалогію, займаўся праблемамі стылістыкі і культуры мовы. З'яўляецца аўтарам наступных прац:

1. Беларускае літаратурнае вымаўленне (Народная асвета, 1976).
2. Беларускія народныя параўнанні: кароткі слоўнік (Вышэйшая школа, 1973).
3. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі (Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1957).
4. Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы (Выдавецтва АН БССР, 1962).
5. Беларуская фразеалогія. Фразеалагізмы, іх значэнне, ужыванне (Вышэйшая школа, 1968).
6. Гістарычная граматыка беларускай мовы (Вышэйшая школа, 1989).
7. Дыялектны слоўнік (Навука і тэхніка, 1959).
8. Крылатыя словы і афарызмы: з беларускіх літаратурных крыніц (Выдавецтва АН БССР, 1960).
9. Пытанні культуры мовы (Выдавецтва мовазнаўства вышэйшай, сярэдне спецыянальнай і прафесіянальнай адукацыі БССР, 1961).

10. Роднае слова (Вышэйшая школа, 1972).

11. Само слова гаворыць: філалагічныя эцюды, абразкі, артыкулы (Мастацкая літаратура, 1986).

**Заданне 16.**

*Анапест. Уладзімір Караткевіч. «Беларуская песня».*

**Заданне 17.**

1. На гэтай пустой кватэры збіраліся студэнты, што заставаліся **летаваць** у горадзе.
2. Мабыць, нуду такую самую адчувалі і каровы, бо глыбакадумна галовы паспушчалі; рэшта нюхаюць траву, нехаця выбіраючы па **каліву**.
3. Падымалі яго а сёмай гадзіне раніцы. Бадай, **запозна**, бо ў Ашмянах уставалі раней.
4. Прылёгшы на **мліва** гарачым, дадому вяртаемся ў поўнач дарогай знаёмай.
5. Яму душу адкрыць ахвота — наросхрыст, насцеж, нарасхляб, каб выйшла вон уся **згрызота** — на суд людскі і на разгляд.
6. Ледзь чутна папісквалі ў злепленым пад самым вільчыкам гняздзечку **ластавяняты**.
7. **Пробашч** у турботах не разагнуў спіны ў касцельным сутарэнні.
8. Святлеў, **прастранеў** намружысты, вузкі калідор у суботу па апошняй лекцыі.
9. **Спаборнікі** не хочуць, каб іхнія машыны прастойвалі лішне на рамонтных канавах.
10. Назад варочаецца вяселле ўжо **надвячоркам**.

**Заданне 18.**

1. Скажыце, — задае ён пытанне, — калі б вам давалі медаль, вы адмовіліся б ад *яго*?
2. Ганна і да гэтага іх заўважыла, яны стаялі, нечым устрывожаныя, ля *бар'ера*.
3. Я баяўся, каб хаця Зайцаў не нарабіў *глупства*.
4. У пакоі было шмат кніг, якімі Алесік зачытваўся і *якія любіў*.
5. У гэты дамок Ларыса, выпрастаўшыся на ўвесь свой рост, зайшла спачатку *ўдзвюх* з Зінай, потым з Жэнем.
6. Эдуард зразумеў, што жаніцьба з *Антанінай* Мамосінай была, мусіць, несур'ёзным крокам.

**Заданне 19.**

1. Брыль
2. Праснак
3. Алей
4. Лазня
5. Дубэльты
6. Ха́лепа